ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 355 Год выд. XXXVIII | Студзень 1989

**«Мы мусім навучаць гісторыі, базаванай не на тым, што модна, а што важна... Калі мы забудземся аб тым, што мы зрабілі, мы ня будзем ведаць хто мы.** — Прэзыдэнт Рональд Рэйган у разьвітальнай прамове да амэрыканскага народу, 11 студзеня 1989 г.

# БЕЛАРУСЬ: НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ

**Ад Рэдакцыі:** *Выдаваная ў Парыжы газэта «Русская Мысль» (28.X.88) зьмясьціла артыкул Васіля Забелы зь Менску пад заг. «Беларусь: нацыянальнае адраджэньне». Перадрукоўваем яго ніжэй поўнасьцяй.*

Беларускае слова «Курапаты» сёньня, відаць, сталася міжнародным. Пра жудасныя падзеі больш як 50-гадовай даўнасьці ў лясным раёне недалёка ад Менску паведамілі блізу ўсе буйнейшыя інфармацыйныя агенцтвы сьвету. Шмат і ахвоча пісаў пра іх міжнародны друк. Страшныя падрабязнасьці сталінскага тэрору далі магчымасьць стварыць абраз шыракамаштабнага антыбеларускага генацыду, праводжанага, каб дагадзіць адзіна вернай і непагрэшнай марксысцка-ленінскай ідэялёгіі. Паводля падлікаў аўтара публікацыі аб Курапатах Зянона Пазьняка, таксама аднаго зь лідэраў сёньняшняга беларускага нацыянальнага адраджэньня, у брацкіх магілах пад Менскам ляжыць ня менш за дзьвесьце тысячаў людзей. Гэтыя лікі, улічваючы, што ў даваеннай (да 1939 году) БССР жыло няшмат больш як 5 мільёнаў асобаў, бясспрэчна сьведчаць пра супастаўляльнасьць сталінскае й гітлераўскае палітыкі ў дачыненьні да Беларусаў. У сувязі з гэтым крыху бляднее і эфэкт дыжурнага цьвярджаньня з арсэналу савецкае прапагандысцкае машыны аб тым, што ў Беларусі ў гадох Другой сусьветнай вайны загінуў кожны чацьверты жыхар рэспублікі. А калі ўлічыць, што прыблізна палавіна тых, што загінулі ў гэтым пэрыядзе, прыпадае на Гэбрэяў, то стане яснай відавочная трапнасьць падобнага параўнаньня.

Падзеі вакол праблемы Курапатаў выявілі й другі бок цяперашняга стану беларускага нацыянальнага пытаньня ў Савецкім Саюзе. У тым, што падобнае пытаньне існуе, відаць, нікога сёньня пераконваць ня трэба. Перабудова зь ейнай галоснасьцяй і элемэнтам дэмакратызацыі грамадзтва выявіла ягонае існаваньне і актуальнасьць з усёй відавочнасьцяй. Аднак беларускую інтэлігенцыю, якая мае нацыянальную сьведамасьць і стаіць сёньня на чале працэсу нацыянальнага адраджэньня, непакоіць іншае. Перабудовачныя падзеі ў БССР прайшлі бадай незаўважанымі ў сродках масавай інфармацыі Захаду, і сёньняшняе беларускае нацыянальнае адраджэньне выразна незаслужана застаецца ў цені падзеяў, што адбываюцца ў іншых нацыянальных раёнах Савецкага Саюзу. Бурныя алма-ацінскія і карабахскія падзеі, масавыя дэманстрацыі ў Прыбалтыцы засланяюць сабой працэс нацыянальнага адраджэньня ў адной з самых русыфікаваных савецкіх рэспублік.

Менскія беларускія адраджэнцы перакананыя, што якраз яны ідуць у авангардзе змаганьня савецкіх народаў за свае правы. І гэтае іхнае перакананьне, якім-бы спрэчным яно ні здавалася, угрунтаванае на рэальных фактах. На Беларусі рух у абароне роднае мовы й беларускай культуры з самага пачатку перабудовы стаўся масавым. Толькі ў Менску сёньня дзеюць 15 нефармальных аб'еднаньняў (галоўным чынам маладзежных), якія паставілі за асноўную мэту свае дзейнасьці нацыянальнае адраджэньне беларускага народу. Самым актыўным зь іх (у ім прыблізна каля паўтысячы чалавек) сталася арганізацыя «Талака» (старабеларускае слова, што азначае групу сялянаў, якія, злучыўшыся, памагаюць аднасяльчанам, што трапілі ў бяду), якая заняла ў дачыненьні да ўладаў радыкальную наступальную пазыцыю.

У Менску ды іншых буйных гарадох рэспублікі рэгулярна адбываюцца мітынгі й дэманстрацыі (дазволеныя й недазволеныя ўладамі) на абарону роднае мовы й нацыянальнай культуры Беларусаў. Зьявіўся даволі шматлікі беларускі самвыдаў, якога практычна ня было гадамі застою. Звычайнай зьявай у беларускай сталіцы сталася пашырэньне лістовак у беларускай мове з заклікамі супрацьдзеіць прагрэсуючай русыфікацыі. А зусім нядаўна гнеўную злосьць уладаў выклікалі публічна выказаныя заклікі лідэраў «Талакі» вярнуць беларускаму народу ягоныя традыцыйныя нацыянальныя сымбалі: бел-чырвона-белы сьцяг і нацыянальны гэрб — старадаўную літоўскую «Пагоню» (гэрб сярэднявечнага Вялікага Княства Літоўскага. Дарэчы, шмат хто глядзіць на Вялікае Княства Літоўскае, мовай дакумэнтаў якога была 'руская', г. зн старабеларуская, як на праўбраз незалежнае беларускае дзяржавы). У адказ на падобныя прапановы зьявілася сэрыя гнеўных выкрывальніцкіх артыкулаў у цэнтральным рэспубліканкім друку, у якіх «клеймавалася» «нацыяналістычная» пазыцыя талакоўцаў.

Шырокі размах і рост актыўнасьці маладзежных нефармальных аб'еднаньняў у Беларусі поўнасьцяй вытлумачальныя. Сёньняшні стан беларускай мовы, культуры, ды, хіба, і нацыянальнае сьведамасьці Беларусаў інакш як трагічным не назавеш. Ні ў адным з гарадоў рэспублікі няма ні аднае беларускае школы. У вёсках-жа беларускія школы ў асноўным малалікія пачатквавыя, у якіх ладная частка настаўнікаў вядзе свае заняткі парасейску. Беларуская мова практычна выціснутая з грамадзкага й культурнага жыцьця рэспублікі, ня кажучы ўжо пра палітычнае. «Застойнымі» гадамі расейская мова сталася для Беларусаў сынонімам палітычнае надзейнасьці сваеасаблівай гарантыяй кар'еры. Жменька Беларусаў, што напорна адмаўлялася перайсьці на расейскую, безапэляцыйна залічалася ўладамі ў катэгорыю нацыяналістаў. Беларускамоўныя Беларусы памалу, але няўхільна абарачаліся ў рэліктавую нацыянальную мяншыню ў сваёй рэспубліцы.

Працэс русыфікацыі БССР зайшоў нагэтулькі далёка, што сёньня, калі адраджэнскі рух стаў масавым, у ягоных радох пераважаюць расейскамоўныя Беларусы. Гэтую зьяву, дарэчы, намагаецца выкарыстаць у сваёй рабоце афіцыйная партыйная прапаганда. Даволі часта на мітынгах даводзіцца быць сьветкам таго, як партыйныя прапагандысты ў сваёй антыбеларускай рыторыцы выкарыстоўвалі ў якасьці аргумэнту той факт, што шмат якія талакоўцы ня ўмеюць пісьменна гутарыць пабеларуску. А ясна-ж, што гэта ня віна, а бяда гэтых маладых энтузіястаў беларускага адраджэньня, якія цяпер энэргічна авалодваюць роднай мовай. Паказальна, што нават адзін зь вядучых адраджэнцаў пісьменьнік Канстантын Тарасаў, артыкулы якога на старонках газэты «Літаратура і Мастацтва» пазначылі пачатак шырокае дыскусіі аб стане беларускай мовы, толькі крыху больш як год таму пачаў пісаць пабеларуску.

Шырокі размах руху абароны роднае мовы й культуры Беларусі тлумачыцца перш-наперш тым фактам, што працэс русыфікацыі паставіў Беларусаў перад фатальнай мяжой: далей іх чакала поўная дэнацыяналізацыя і ператварэньне Беларусі ў адзін з расейскамоўных рэгіёнаў краіны, накшталт Сібіры ці Стаўропальшчыны. На шчасьце, беларускі народ сваечасна ўсьведаміў гэтую страшную пагрозу і адгукнуўся на заклік жменькі сьмельчакоў.

Паказальна, што Беларусы былі адным зь першых савецкіх народаў (калі ня першым), які зрабіў спробу ўва ўмовах пачатку перабудовы галасна заявіць аб сваіх правах. Ужо ў красавіку 1986 году, прыблізна за паўгоду да алма-ацінскіх падзеяў, у Менску адбыліся так званыя «троіцкія падзеі», калі спэцыяльна падрыхтаваныя камсамольскія апэрадзьдзелы, што складаліся у асноўным з вэтэранаў афганскай вайны, жорстка расправіліся з дэманстрацыяй моладзі, якая адбывалася пад нацыянальнымі лёзунгамі. І хоць сваімі маштабамі і лікам пацярпелых «троіцкія падзеі» саступілі алмаацінскім, яны былі першым, яшчэ нясьмелым парасткам нацыянальнага абуджэньня савецкіх народаў.

«Троіцкія падзеі» ў Менску сталіся тэй іскрай, якая запаліла полымя адраджэнскага руху ў Беларусі. За імі пайшла сэрыя лістоў вядучых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі на чале з самым Васілём Быкавам (яго ў Менску завуць «сумленьнем нацыі») на імя М. Гарбачова, у якіх аўтары дамагаліся рашучых захадаў з мэтай спыненьня працэсу русыфікацыі. Лісты гэтыя, дарэчы, засталіся без адказу.

(Працяг на 8-й б.)

Васіль Жуковіч

## О, ЗЬНІКНІ ТЫ, СУМНЕНЬНЯ ЦЕНЬ!

*Яшчэ ўсё іншы раз ня верыцца,*
*што ўдасца абудзіць народ,*
*што і абуджаны ня вернецца*
*у сьпячку ўжо на сотні год.*

*Сядзяць ва ўладзе (хто іх кратае?!)*
*палітыканы і чыны,*
*што і пад сьцягам дэмакратыі*
*умеюць свой разбой чыніць.*

*Ім аніякае галоснасьці*
*ня трэба — ім вярні застой,*
*дыхнуць ім дай паветрам коснасьці, —*
*і знойдзецца ў іх лідэр свой.*

*Спакойненькага ўзьнімуць лідэра,*
*а ты яго ня выбірай —*
*прагаласуй заместа выбараў*
*і будзе зноў эліце рай.*

*І зоймуцца хлусьлівай крытыкай:*
*маўляў, пара назад ісьці,*
*бо Гарбачоў сваёй палітыкай*
*усю краіну распусьціў.*

*«Літаратура і Мастацтва»*
*23.XII.1988*

Людміла Рублеўская

## СЫМБАЛЬ ВЕРЫ

*Не, я ня веру, што так будзе,*
*Што стопчуць мовы нашай луг*
*Свае-ж, старонкі нашай людзі,*
*Хапіўшы гарадзкіх навук.*
*Ды чую я, —*
*а чуць нязносна, —*
*Як прагназіруюць усе,*
*Што адмірае мова вёскі,*
*Глядзіш — і вымра пакрысе.*
*Закон гісторыі?*
*Не! Ганьба*
*На нас, апошніх, хто пасьпеў,*
*Як Беларусы размаўляюць,*
*Чуць — і забыцца неўспадзеў.*
*Нам нельга выжыць без надзеі,*
*Бяз слова — ўласнага, свайго...*
*У гарадох культура сьпее.*
*Але — чыя*
*і для каго?*

*«Літаратура і Мастацтва»*
*9.XII.1988*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# *Б. САЧАНКА ПРА ЭМІГРАЦЫЮ*

У двух леташніх нумарох часапісу «Маладосьць» (10-м і 11-м) быў зьмешчаны вялікі артыкул (41 стар. друку) пад заг. «Беларуская эміграцыя: факты і меркаваньні». Напісаў яго пісьменьнік Барыс Сачанка. Гэта першы такога роду матар'ял у беларускім савецкім друку, хоць ёсьць у артыкуле шмат чаго і ад тае пісаніны, якою займаліся ў «Голасе Радзімы» Прокша, Бажко, Бягун, Мацкевіч ды іншыя.

Сачанка зрабіў спробу даць агляд усяе беларускай эміграцыі ў часавым і геаграфічным прасторы.

Тэма эміграцыі ў савецкім друку (за выняткам такіх спэцпублікацыяў, як «Голас Радзімы») была забароненай. Але вось настаў час "галоснасьці". Пра эмігрантаў пачалі пісаць Эстонцы, Латышы, Літоўцы, Украінцы, Армяне. «Паўстае законнае пытаньне, — кажа Сачанка: — а чаму мы, Беларусы, маўчым, чаму забыліся, што ў нас таксама-ж існавала ды існуе і цяпер эміграцыя». І Беларус Сачанка пастанавіў таксама выкарыстаць «магчымасьць аб'ектыўна і дыфэрэнцыравана паглядзець на эміграцыю».

Да «аб'ектыўнасьці» аднак Сачанку яшчэ далёка, хоць-бы з тае простае прычыны, што там, дзе няма поўнасьці, там ня можа быць і аб'ектыўнасьці. Відаць, у тых «спэцархівах», да якіх Сачанку даюць доступ, няма ўсіх публікацыяў, зь якіх можна было-б дакладна вывучыць пытаньне эміграцыі ды паінфармавацца пра сучасны ейны стан. Але й тое, што Сачанка ведае, ён падаў, як ён кажа, «дыфэрэнцыравана», г.зн. з палітычнымі ярлыкамі, адпаведнымі характарыстыкамі, агаворкамі. Сачанка намагаецца давесьці (відаць тым, да каго залежыць доступ да спэцархіваў), што ён не наварнуўся на эміграцкую веру. Беларуская бібліятэка ў Лёндане, прыкладам, для яго не бібліятэка, а «так званы Скарынінскі цэнтр». Жылкава паэма «Тэстамэнт» ня проста была забароненая савецкай цэнзурай (гэтак-жа, як былі забароненыя й творы Купалы, Дубоўкі, Пушчы ды іншых, аб чым сёньня адкрыта пішацца), а «патрабавалася некалькі дзясяткаў год (вунь аж колькі! — Я.З.), каб упэўніцца, што гэта сапраўды твор Уладзімера Жылкі». Беларусаў па вайне ня вывозілі ў Карэлію, Сібір, Казахстан, а адбываліся «выезды людзей за межы рэспублікі»...

Адвага, зь якою Сачанка выступае на пісьменьніцкіх сходах і пленумах (дый на старонках друку, калі піша на нутрана-беларускія тэмы), не спадарожнічала аўтару, калі ён пісаў пра эміграцыю. Эміграцыя — тэма яшчэ ўсё небясьпечная ў рэспубліцы-Вандэі. Адсюль у Сачанкі і перастрахоўка, і непатрэбны дзёгаць — «дыфэрэнцыраванасьць»...

Дык што-ж і пра каго Барыс Сачанка напісаў?

Напісаў пра эмігрантаў-паэтаў, фактычна, не пра паэтаў, а пра іхны «сум па радзіме». У Клішэвіча сум, у Арсеньневай сум, у Салаўя, Кавыля ды іншых тое самае. Выглядае, што эміграцыйныя паэты мала пра што іншае і пішуць.

Сачанка даў біяграфічныя нарысы пра Міхася Забэйду-Суміцкага, Ларысу Геніюш, Уладзімера Жылку (у 10-м нумары); расказаў — «дыфэрэнцыравана» — пра даваенную і паваенную палітычную эміграцыю, пра паваенную эміграцыйную літаратуру (Наталью Арсеньневу, Алеся Салаўя, Масея Сяднёва, Уладзімера Клішэвіча); згадаў паэтаў Міхася Кавыля, Рыгора Крушыну, Янку Золака, Уладзімера Дудзіцкага, Янку Юхнаўца; схарактарызаваў прозу Масея Сяднёва, Кастуся Акулы, Уладзімера Сядуры, Юркі Віцьбіча, літаратурную крытыку Антона Адамовіча, Станіслава Станкевіча, Хведара Ільляшэвіча, пераклады янкі Станкевіча (Біблія), Я. Пятроўскага (Плятон), П. Татарыновіча («Кво вадзіс?») ды некаторых іншых.

Кароткія даведкі даў Сачанка пра мастакоў В. Жаўняровіча, Ул. Шыманца, І. Шыманец-Сурвіла, Т. Стагановіч-Кольба, П. Мірановіча, І. Рагалевіч, Г. Русак, М. Саўку-Міхальскага, М. Наўмовіча, кампазытараў М. Равенскага, М. Куліковіча-Шчаглова, Э. Зубковіч, А. Карповіча, сьпевакоў В. Селях-Качанскага, П. Конюха, М. Стрэчаня, Данчыка (Багдана Андрусышына), вучоных Б. Кіта, А. Руржанца-Ружанцова, І. Любачку, Л. Акіншэвіча.

Пра шмат што і шмат каго прамоўчана. Барджэй за ўсё Сачанка ня ведае фактаў, дый адкуль яму ведаць, калі ў БССР дасюль не вялося сыстэматычнага вывучэньня жыцьця Беларусаў за межамі рэспублікі.

Зь некаторых Сачанкавых выказваньняў чытач пабачыць аднак, што абраз эміграцыі куды шырэйшы, як тыя дэталі і «характарыстыкі», якімі аўтар гэты абраз напоўніў. І дапытлівы чытач будзе шукаць далейшай, больш поўнай і аб'ектыўнай інфармацыі.

«Як правіла, — піша Б. Сачанка, — жывуць Беларусы-эмігранты і ў чужых краёх адасоблена, сваімі каленіямі. У Англіі, Аўстраліі, ЗША маюць цэрквы, касьцёлы, магазыны, касы ўзаемадапамогі, культурныя цэнтры, дзе выступае свая мастацкая самадзейнасьць, а ў некаторых месцах — і бібліятэкі, школы, музэі. Час ад часу зьбіраюцца разам, каб адзначыць сьвяты».

Чытач «Маладосьці», трэба думаць, захоча даведацца пра ўсё гэта.

**Янка Запруднік**

### СПЫНЕНЫ ЭКСПАРТ ТАВАРАЎ

Савецкі ўрад забараніў вываз дэфіцытных тавараў у краіны Ўсходняй Эўропы. Забарона датычыць і да тых людзей, што масава прыяжджалі на Беларусь з Польшчы на закупы тэлевізараў, лядовак, пральных і швэйных машынаў ды электрычных вырабаў. Забарона (якая ўвойдзе ў моц. 1.II.1989 г.), паводле савецкага тлумачэньня, скіраваная супраць чорнага рынку.

*Леанід Галубовіч*

### НАДЗЁННАЕ

*Аптымісты папрыціхлі.*
*Пэсымісты ў бубны б'юць.*
*Пяцігодкі, квадры, цыклы...*
*Шэйкі, брэйкі, матацыклы...*
*Дайце стомленым сапнуць.*

*Дайце трохі аглядзецца,*
*Апрытомнець ад сталіц —*
*Ці камп'ютэрнае сэрца,*
*Ці сваё ўжо глуха б'ецца,*
*І аб чым яно баліць?*

*Зьберагчы-б яшчэ жывое,*
*Засланіць ад злой гайні.*
*Штучнасьць, пэўне, мы падвоім...*
*Зерне-б высьпеліць зямное*
*Чалавечай дабрыні.*

*Пасяліць-бы ў душах Бога —*
*Ня бухгальтара-скупца —*
*Ўсеахоўніка людзкога*
*Ад наноснага і злога,*
*Хоць зь вянцом, хоць безь вянца.*

*Каб, адкінуўшы хімэры,*
*Мог сказаць я хоць калі:*
*У мяне пачатак эры,*
*У мяне пачатак веры —*
*Ў чалавека на зямлі.*

*1988*
*(«Полымя», 1988, №. 10)*

### БЕЛАРУСКАЯ «СЯБРЫНА» Ў ВІЛЬНІ

У ліпені летась у Вільні быў заснаваны беларускі клюб «Сябрына». Два прадстаўнікі гэтага клюбу, К. Балаховіч і О. (А?) Аблажэй, увайшлі ў склад літоўскай Міжнацыянальнай Каардынацыйнай Асацыяцыі, створанай 17 сьнежня летась. У асацыяцыі ёсьць таксама прадстаўнікі іншых народаў: Палякі, Гэбрэі, Татары, Эстонцы, Украінцы.

Мэта асацыяцыі — спрыяць палепшаньню міжнацыянальных узаемадачыненьняў, падтрымваць дамаганьні Літоўцаў, каб літоўская мова ў Літве сталася дзяржаўнай ды каб было заканадаўна забясьпечанае права ўжываць мовы іншых нацыянальных групаў, што жывуць у рэспубліцы.

*(Паводля газ. «Советская Литва», 22.XII.88).*

### В. БЫКАЎ У АНТУРАЖЫ М. ГАРБАЧОВА

Калі на пачатку сьнежня летась у Нью-Ёрк прыехаў на Генэральную Асамблею ААН савецкі лідэр Гарбачоў, дык у суправаджэньні яго сярод іншых выдатных дзеячоў савецкае культуры быў і народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў, штó паказвае на высокі аўтарытэт Быкава, аднаго з актыўных дзеячоў руху за перабудову.

**«Яны [дзяржавы-ўдзельніцы Гэльсынскіх пагадненьняў] забясьпечаць, каб чалавек мог свабодна выбіраць сабе крыніцы інфармацыі. У сувязі з гэтым яны... дазволяць грамадзянам, установам і арганізацыям — захоўваючы прыгэтым права на інтэлектуальную ўласнасьць, у тым ліку аўтарскае права — даставаць, мець у сябе, размнажаць і пашыраць інфармацыйны матар'ял усякага роду».** — З заключнага дакумэнту Венскае канфэрэнцыі 35 дзяржаваў, у тым ліку СССР, аб бясьпецы й супрацоўніцтве ў Эўропе. *«Нью-Ёрк Таймс», 17 студзеня 1989 г., стар. А12)*

## ДА КАНАДЫЙЦАЎ БЕЛАРУСКАГА ПАХОДЖАНЬНЯ

### Зварот

ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!

Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады ў супрацоўніцтве з канадзкім Міністэрствам Шматкультуралізму (МШ) арганізуе ў Тароньце 18-19 сакавіка 1989 г. ЗЬЕЗД ПРАДСТАЎНІКОЎ БЕЛАРУСКІХ АСЯРОДКАЎ З УСЯЕ КАНАДЫ. Міністэрства Шматкультуралізму, заданьнем якога — спрыяць кожнай этнакультурнай групе Канады ў нармальным разьвіцьці ды зьберагаць іх культурных вартасьцяў, гатовае памагчы, нават фінансава, у гэтай справе і Беларусам. Аб гэтым сказаў на нарадзе зь беларускімі прадстаўнікамі ў Тароньце 24.IX.1988 г. сп. Расэл Бартон, прадстаўнік МШ.

На нарадзе было пастаноўлена, што ККБК скліча **зьезд прадстаўнікоў беларускіх асяродкаў з усяе Канады на 18-19 сакавіка* 1989 году ў Тароньце** ў нэўтральным месцы — у гасьцініцы.

На зьезьдзе будуць працаваць сэкцыі: 1. Арганізацыйнае разьвіцьцё. 2. Удзел моладзі ў этнічным жыцьці. 3. Ажыўленьне заціхлых арганізацыяў. 4. Узгадаваньне лідэраў. 5. Захаваньне й разьвіцьцё беларускай культурнай спадчыны. Дакладчыкамі ў гэтых сэкцыях будуць сп. Расэл Бартон ды іншыя кваліфікаваныя асобы, якіх дала-б Канадзкая Этнакультурная Рада.

Мэта зьезду Беларусаў Канады — выпрацаваць кірунак і спосабы дзеяньня, каб удзельнікі зьезду, вярнуўшыся дамоў, спрабавалі на мясцох узмоцніць або й засноўваць беларускія арганізацыі, якія праз Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады зрабілі-б больш жыцьцяздольнай беларускую этнакультурную групу ў Канадзе.

Дарагія Суродзічы! Заклікаем вас усіх да дзейнага ўдзелу ў зьезьдзе Беларусаў. Згаджайцеся быць прадстаўнікамі на зьезьдзе або прапануйце іншых асобаў зь першага, другога або й трэйцяга пакаленьня перасяленцаў зь Беларусі.

Заклікаем да ўдзелу ў зьезьдзе асабліва прадстаўнікоў малодшых пакаленьняў, бо яны — будучыня шматкультурнай Канады, а таксама будучыня беларускай этнакультурнай групы ў Канадзе.

Ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады:

Старшыня
Dr. B. Ragula
579 Willowdale Ave.
London, Ont. N5X 1J2
Tel.: (519) 432-5164

Сакратар
Dr. Raisa Žuk-Hryškievič
54 Mary St.
Barrie, Ont. L4N 1T1
Tel.: (705) 728-7581

* У папярэднім нумары «Беларуса» быў памылкова названы месяц красавік замест сакавіка.

### *НА АМЭРЫКАНСКАЙ ВЫСТАЎЦЫ Ў МЕНСКУ*

**«Добры ўрок нашым бюракратам»**

На выстаўцы «Інфарматыка ў жыцьці ЗША», якая працавала ў Менску ад 29 лістапада да 30 сьнежня летась, былі два беларускамоўныя гіды, сп. Вацлаў Мельяновіч і сп-чна Аня Бойчук. Выстаўку наведвала штадня 12-14 тыс. асобаў. У кнізе наведнікаў, сярод водгукаў пра выстаўку, было шмат падзякаў за беларускамоўных гідаў. Адзін мянчанін напісаў: «Прыемна зьдзіўлены, пачуўшы выдатную беларускую мову Вашага гіда, у той час калі беларускі ўрад размаўляе з сваім народам на замежнай — расейскай мове... Добры ўрок нашым беларускім бюракратам!».

### СПЫНЕНА БУДАЎНІЦТВА АЭС

Кіраўніцтва БССР дало было дазвол на будаўніцтва на Віцебшчыне атамнай электрастанцыі. Гэта выклікала ў беларускім грамадзтве, якое найбольш пацярпела ад чарнобыльскае катастрофы, хвалю пратэстаў, часткава адлюстраваных друкам. Гэтак, прыкладам, старшыня Беларускага адзьдзелу Савецкага дзіцячага фонду У. Ліпскі пісаў у газ. «Зьвязда» (15.XI.88) пра вынікі на Беларусі чарнобыльскай аварыі: «...Як высьветлілася, радыёнуклідамі пакрытыя плошчы, на якіх пражываюць сотні тысячаў чалавек... Ва ўсесаюзны рэгістр занесеньня ўжо дзясяткі тысячаў чалавек, якія атрымалі аварыйныя дозы ці блізкія да іх. Чацьвёртая частка — гэта дзеці...».

У выніку шырокіх пратэстаў супраць будаўніцтва АЭС на Віцебшчыне, у лістападзе ў друку БССР зьявілася паведамленьне: «Урадам рэспублікі прынята рашэньне аб спыненьні праектна-разьведачных работаў». (*«ЛіМ», 25.XI.88)*

Аб спыненьні будаўніцтва атамнай электрастанцыі «недалёка ад беларускай сталіцы» падала таксама лёнданская газэта «Дэйлі Тэлеграф» (24.XII.88).

### ВЫНІКІ ЧАРНОБЫЛЯ МЕНШ СТРАШНЫЯ

Паводля рапарту амэрыканскіх вучоных, апублікаванага ў сьнежанскім нумары часапісу Science (Dec.19.88), пагроза здароўю людзей, якія жывуць па-за межамі 30-кілямэтровай зоны вакол Чарнобыля, будзе замалая, каб магчы яе ўстанавіць статыстычнымі мэтадамі.

Паводля газэты «Нью-Ёрк Таймс» (27.XII.88), якая паведаміла пра рапарт, спрычыненая чарнобыльскай аварыяй шкода здароўю людзей менш трывожная, чым думалі раней. Сьвежая ацэна небясьпекі зробленая часткава з улікам новых савецкіх дадзеных, раскрытых на канфэрэнцыі ў Кіеве ўлетку 1988 году.

### *СУПРАЦІЎ МЕНСКІХ СТАЛІНЦАЎ*

Газэта «Нью-Ёрк Таймс» (28.XII.88) у паведамленьні з Масквы пра ход кампаніі за пабудову помніка ахвярам сталінізму («Мэмарыял») падала словы беларускага пісьменьніка Алеся Адамовіча, які сказаў, што афіцыйны друк у Менску, «баючыся страціць аўтарытэт, пачаў інтэнсыўную кампанію дыскрэдытацыі арганізатараў праекту 'Мэмарыял'».

«Беларускі адзьдзел 'Мэмарыял', — піша «НЁТ», — актывізаваўся сёлета пад уплывам раскрыцьця масавых магілаў у лесе пад Менскам, у якіх ляжаць астанкі 150 тысячаў ахвяраў сталінскага тэрору».

### *ЗНАЙШОЎ СВАЮ НАЦЫЮ!*

*(Урывак зь ліста ў рэдакцыю газэты «Літаратура і Мастацтва», 23.XII.88)*

Прызнаюся, я ў свае дваццаць сем гадоў упяршыню зьведаў паучуцьцё нацыянальнай годнасьці, калі прачытаў аповесьць Э. Ялугіна «Пасьля нябыцьця» [пра аднаго із стваральнікаў БССР Зьміцера Жылуновіча, ён-жа пісьменьнік Цішка Гартны — рэд. «Б-са»] у часапісе «Нёман». Аказваецца — рабіў я для сябе адкрыцьцё — была такая нацыя! Аказваецца, былі ў нас свае вучоныя з сусьветным імем. Раней я нават такога ўявіць сабе ня мог. А тут даведваюся, што за манаграфію «Беларусы» Я. Ф. Карскі становіцца яшчэ ў дарэвалюцыйны час сусьветна вядомым вучоным, атрымлівае званьне акадэміка. Сёньня я даведваюся, таксама не бязь зьдзіўленьня, што некатором нашым сымвалам — сем вякоў, што кнігадрукаваньне ў нас было пачата намнога раней, чым у некаторых іншых народаў краіны, што... А калі гэта так, дык што-ж з намі адбылося? Чаму і як мы растрацілі тое, што накоплівалася стагодзьдзямі? Ці даруюць нам гэта нашы нашчадкі?..

**Ад Рэдакцыі:** Гэта красамоўны камэнтар пра сыстэму асьветы ў БССР, зь якой выпусташаны беларускі зьмест. 27-гадовы інж. А. Доўгі, аўтар ліста, закончыў сваю ВНУ недзе на пачатку 80-х гадоў. Нічога ня ведаць, канчаючы вышэйшую школу, пра старшыню першага ўраду свае рэспублікі ды заснавальніка беларускае моваведы раўназначна няведаньню амэрыканскім інжынерам пры сканчэньні каледжу, хто гэта — Джордж Вашынгтон і хто — Ноа Вэбстэр.

### ЗА БЕЛАРУСКАМОЎНАЕ АФАРМЛЕНЬНЕ ГАРАДОЎ

Начальнік фінансавага адзьдзелу Гомельскага хімзаводу імя 50-годзьдзя СССР М. Хадоркін, падтрымваючы нядаўна прынятыя «Асноўныя мерапрыемствы па далейшаму разьвіцьцю народнай адукацыі ў БССР», запрапанаваў свае «мерапрыемствы» для ўзмацненьня «ўвогуле нізкай» нацыянальнай сьвядомасьці Беларусаў:

«Добрае псыхалягічнае ўражаньне, — кажа Хадоркін, — магло-б зрабіць беларускамоўнае афармленьне гарадоў і вёсак, аўтамабільных дарог, розных этыкетах і ўпаковак, блянкаў сувязі і г.д.».

Свой ліст у рэдакцыю газэты «Літ. і Маст.» (16.XII.88) Хадоркін канчае цытатай з выступленьня на XIX-й партыйнай канфэрэнцыі ў Маскве першага сакратара ЦК кампартыі Грузіі Д. І. Паціяшвілі, які сказаў:

«Менавіта наша партыя, інтэрнацыянальная па сваёй сутнасьці, павінна выступаць сёньня галоўным гарантам асноватворных каштоўнасьцяў і сьвятынь нацыянальнага духу — самабытнасьці, культуры і мовы».

На вялікі жаль, пра кампартыю Беларусі, як цэласьць, тымчасам аніяк нельга сказаць, што яна «інтэрнацыянальная па сваёй сутнасьці» і «гарант нацыянальнага духу». Сутнасьць КПБ, асабліва ейнага кіраўніцтва, застаецца й далей вялікадзяржаўніцка-расейскай, а розныя дасюлешнія «мерапрыемствы» для палепшаньня стану беларускай культуры носяць толькі фасадны характар.

Першы сакратар ЦК кампартыі Беларусі Яфрэм Сакалоў і ягоныя бліжэйшыя супрацоўнікі ня толькі не карыстаюцца нідзе беларускай мовай, але й не валодаюць ёю.

## *«НЕФАРМАЛЬНЫЯ БЕЛАРУСЫ»*

*(Працяг з нумароў 349, 350 і 351)*

**Ад Рэдакцыі:** *З пропускам у папярэдніх нумарох, друкуем далей матар'ял «круглага стала» расейскамоўнага часапісу «Нёман» (1988, № 6) пад заг. «'Нефармалы' — хто вы?».*

*«Нёман»:* А як да вас ставяцца ў інстытуце?

*Алесь Гуркоў* [старшыня экааб'еднаньня пры тэхналягічным інстытуце ў Менску — рэд. «Б-са»]. Вельмі насьцярожана. Асабліва пасьля вечару памяці У. Караткевіча й выступленьня С. Сокалава-Воюша. Даходзіць да таго, што зрываюць нашы газэты й аб'явы-запросіны на нашы вечары. Прыгэтым ніхто нічога ня тлумачыць. Дэкан майго лесатэхнічнага факультэту кажа: «Мне не падабаецца, што ў нас зарганізаваўся гуртох. Вы павінны яго распусьціць»... Яму не падабаецца і ўсё. (...)

*Вітаўт Мартыненка* [прадстаўнік рок-клюбу «Няміга», карэспандэнт газэты «Чырвоная Зьмена» — Рэд. «Б-са»].

«Няміга» таксама выклікае пярэчаньні. Камусьці здалося, што калі Няміга — гэта рэчка, якую загналі ў трубы, пад зямлю, дык і рок-клюб — падземны, падпольны. Колькі разоў, не разабраўшыся, забаранялі назоў групы «Бонда», прыгадвалі Джэймса Бонду, і банду... Ад няведаньня мовы, пэўна-ж. (...)

Крыху пра дзейнасьць нашага клюбу. Тут гаворыцца ў асноўным аб традыцыйнай культуры. А рок-музыка — гэта прадукт урбанізацыі. Ведама, што ні адзін народ не застанецца народам, калі ня будзе надаваць нацыянальнага характару урбанізацыі, пасвойму адухаўляць гэты працэс.

Памятаю першае мерапрыёмства — адчыненьне клюбу, канцэрт «Тры колеры». Шмат каго тады зьдзівіла, што гурты пяюць пабеларуску. А ўжо пасьля трэйцяга канцэрту ад гэтага зьдзіўленьня не засталося й сьледу. Зразумелі, што ўсё нармальна — Беларусы засьпявалі пабеларуску. А гэта ўжо й грамадзкая наша дзейнасьць. Усяго, што ад тае пары зроблена, — не пералічыш. «Няміга» — першы нацыянальны рок-клюб, які на першым зьезьдзе Ўсесаюзнае рок-канфэдэрацыі быў прыняты ў ейны склад.

Задуманы быў клюб для практычнай работы: зьбіраць музыкаў, запрашаць спэцыялістаў, людзей, якія маглі-б аналізаваць тэксты, музыку, спрыяць арганізацыі гэтае справы. Гэтак яно й было. Але сёньня справы пайшлі горш. Калі наша мова сталася зразумелай слухачом, то яе, здаецца, зусім не прынялі некаторыя камсамольскія працаўнікі. Ці-ж не дзеля гэтага створаны расейскамоўны цэнтар «Арыентыр»? Для «Арыентыра» знаходзяцца і памешканьні, і апаратура і гэтак далей. Для «Нямігі» — нічога. Вось калі-б абодвы клюбы былі пастаўленыя ў роўныя ўмовы...

Я думаю, што два тры мерапрыёмствы нашага клюбу спалохалі бюракратаў. Цяпер клюб дробіцца, кожны калектыў самайстойна арганізуе канцэрты.

*(Працяг у наступным нумары)*

### «НАЦЫЯНАЛІСТЫЧНАЯ НАСТРОЕНАСЬЦЬ» МОЛАДЗІ

Галоўнай прыкметай сьветагляду шмат якіх маладых Беларусаў у БССР сталася тое, што ў органах друку часта называецца «нацыяналізмам». У лісьце ў рэдакцыю газэты «Літаратура і Мастацтва» (16.XII.88) У. Семянюк, кандыдат філязофскіх навук, піша пра рэзалюцыю, што была прынятая «нейкі час назад» кіраўніцтвам Менскага пэдагагічнага інстытуту ў сувязі зь дзейнасьцяй «нефармальных аб'яднаньняў». Рэзалюцыя, між іншага, заклікала «ў дэканатах (інстытуту) правесьці індывідуальныя сустрэчы і гутаркі з бацькамі студэнтаў-членаў самадзейных клюбаў і групаў моладзі, раскрыць сутнасьць і небясьпеку нацыяналістычнай настроенасьці іх дзяцей».

У. Семянюк згадвае таксама паведамленьне ў інстытуцкай газэце «Савецкі настаўнік» (2.XI.88) пра даклад прарэктара В. Атрошчанкі, які гаварыў пра «нефармалаў» «у такім ключы, што гэта — 'нацыяналістычныя групоўкі', якія свае сапраўдныя мэты 'старанна маськіруюць клопатам пра разьвіцьцё нацыянальнай мовы' і г.д.».

*ТАЦЬЦЯНА ЗІНЕНКА,*
настаўніца беларускай мовы й літаратуры 8-й сярэдняй школы г. Барысава

### *ДВУХМОЎЕ*

*Дзе той філосаф, дзе ён, дзе?*
*Хто распаўсюджвае выслоўе,*
*Што беларускай грамадзе*
*Ня мова трэба, а двухмоўе.*

*Ажно дзве мовы! Божа мой!*
*Яны ва мне ніяк ня ладзяць.*
*Адна — мая. Яна — з крывёй.*
*Ды ў нас чужая на пасадзе.*

*На роднай мове сьняцца сны.*
*Нянашай мове — прывілея.*
*Як быццам-бы ня мы — сыны.*
*«О, Беларусь мая — лілея!»*

*А госьці нашы — на кутах.*
*У нас такая завядзёнка.*
*Яны, лічы, ў гаспадарах,*
*А мы і наша мова — звонку.*

*Калі няпраўду я кажу,*
*Няхай мяне зракуцца людзі.*
*І век наступны за мяжу*
*Сваю мяне прымаць не будзе.*

*І я ня супраць іншых моў,*
*як нехта зноў мяне пужае,*
*Але ў людзей спакон вякоў*
*Дзьвюх матак зроду ня бывае.*

*Калі-б нам мову. Ды сваю.*
*А то ніводнай нашай школы.*
*А мы-ж маліліся агню.*
*А мы — народ зусім ня кволы.*

*О век мой, час мой — златавуст.*
*І дзень наступны — не ранейшы,*
*Але, выходзіць, Беларус*
*Яшчэ і сёлета — тутэйшы.*

*Трываюць людзі да пары,*
*А Беларусы йшчэ і далей.*
*Ой, дзе-ж вы,*
*хлопцы-бунтары?*
*Чаго-ж вы крылы пасkладалі?:.*

*«Настаўніцкая газэта», 19.X.88.*

***Ад рэдакцыі:*** Верш «Двухмоўе» выклікаў шырокую й войструю рэакцыю на старонках «НГ». Пераважалі ў ёй адмоўныя водгукі, але гэта ня значыць, што такіх была бальшыня. Рэдакцыя «НГ», як і некаторыя іншыя органы друку БССР, нажаль, вельмі памалу пераходзіць на пазыцыі актыўнай абароны беларускае мовы і яшчэ ўсё аглядаецца на таго «філосафа» (у ЦК КПБ), які кажа, што Беларусам «ня мова трэба, а двухмоўе».

# ПЫТАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ БАГАСЛУЖБЫ

*Кружэлка-альбом «Похвала Белорусским святым», выд. «Мелодия», Ленинград, 1987.*

У 1980 г. ў Менску выйшла з друку выдатная кніжка, «Беларускі жывапіс XII-XVIII стст.», у якой упяршыню дадзены ў каляровых ілюстрацыях агляд беларускай іканаграфіі ды партрэтнага жывапісу. Сярод розных школаў і кірункаў творы майстра з Маларыты (каля 1648 г.) выяўляюцца, бадай, найбольш арыгінальнай і своеасаблівай формай візантыйскага рэлігійнага малярства ў Беларусі. Падобнымі-ж якасьцямі адзначаюцца й фрэскі XVI ст. ў Супрасьлеўскім манастыры, выкананыя ў стылі бліжэйшым да Сербіі, як да «Сьвятой Русі».

Дзеля гэтага дзіўным выглядае, што выдаўцы нязвычайна цікавага грамафоннага альбому «Похвала Белорусским святым», выпушчанага на адзначэньне Тысячагодзьдзя хрысьціянства ў Беларусі, змадэлявалі рысунак вокладкі на іканаграфічны манер расейскіх мастакоў Ноўгараду й Суздалю. Хоць дэталь гэтая і нязначная ў гэтай агулом бяручы дадатнай публікацыі, яна прыцягвае ўвагу да цэлага пытаньня аб тым, штó паказваецца вонкаваму сьвету, як «беларуская царкоўная музыка».

Нават кружэлка, прысьвечаная «царкоўнай музыцы **у** Беларусі» (тут ёсьць тонкая розьніца), — рэч вельмі новая ў Савецкім Саюзе. Тымчасам як існаваньне «юго-западной» школы літургічнае музыкі на Ўкраіне, пры пэўным падозраным стаўленьні да яе, было неахвоча прызнанае ў XIX ст. прыхільнікамі сынадальнага адзінства, ідэя адрознае традыцыі ў Беларусі нікім паважна не разглядалася. У пазьнейшых досьледах аднак выявілася, што беларускія *ірмалоі* больш, як раней думалі, захаваліся ад зьнішчальнага агню (1853 г.) Архіепіскапа Ёсіфа Сямашкі ды што гэтыя зборнікі маюць у сабе шмат прыкладаў мясцовых беларускіх напеваў і традыцыяў. З часам яны станунца аб'ектам узмоцненага вывучэньня іх новым пакаленьнем дасьледнікаў беларускай царкоўнай музыкі.

Разгляданая тут кружэлка выразна ілюструе дылему для тых, хто хоча даць абраз паўторнага выхаду на арэну нацыянальнае царквы із своеасаблівым гімнасьпевам. З аднаго боку, паўтара стагодзьдзя напорнай русыфікацыі супрацьдзеілі захоўваньню свайго нацыянальнага стылю. Чысьцейшай расейскай мовай Мітрапаліт Мінскі «і Беларускі» (нядаўна пашыраны тытул) уводзіць у сьвята Ўсебеларускіх сьвятых, падкрасьляючы, што беларускі народ — неадлучная складовая частка Расейскай Праваслаўнай Царквы. Цікава, што зь яговых вуснаў ні слова не прагучэла ў мове людзей яговае мітраполіі, нават хоць-бы выказваючы благаславенства.

Далей мы чуем літургічныя малітвы, напяваныя дрыжачымі галасамі, часамі ня ў тоне, сынадальных дзякоў бязь ніякага беларускага акцэнту, насьлядоўваючы тое, што Павал Алепаўскі (1654 г.) называў «шорсткай і грубой інтанацыяй маскоўцаў». Ні аканьня, ні гартаннага «h» заміж «g». Хоць, прыкладам, у Сербіі, Баўгарыі, і на Ўкраіне мясцовыя асаблівасьці ў вымаўленьні ды тэкставыя варыянты — зьява паўсюдная, ня кажучы ўжо пра ўжываньне мясцовых моваў у Румыніі й Фінляндыі. Ці трэба дзіву давацца дзеля гэтага, што шырока гучаць галасы незадаволенасьці й дамаганьні, каб была ўведзеная беларуская мова, як мова багаслужбы, заміж царкоўнаславянскае, якая сталася чужой мясцоваму слыху ў вымаўленьні і ў музычным афармленьні.

Пасьля гучнага рытарычнага ўступу, зробленага мітрапалітам, кружэлка дае падборку трапароў, кандакоў і стыхіроў у гонар некаторых традыцыйных і новакананізаваных сьвятых Беларусі, узьнятых на аўтар ласкай Маскоўскага патрыярха. Сьвятыя ды іконы Смаленску й Вільні — сьвятыя Аўрам і Мэркур, а таксама Вострабрамская Божая Маці — ня згадваюцца. Розныя малітвы выконвае выдатны хор катэдральнага мітрапалічага сабору ў Менску пад кіраўніцтвам Л. Ракіцкага, які забясьпечыў стандартную гарманізацыю ці музыку сьпевам сынадальнага абыходу, трапаром Усім Беларускім сьвятым (6-ты тон знаменнага расьпеву), сьв. Еўфрасіньні Полацкай (4-ты тон грэцкага расьпеву) ды сьв. Софіі Слуцкай. Зь іншых сьпеваў трэба назваць трапар сьв. Кірылу Тураўскаму (4-ты тон валынскага расьпеву) і стыхіру Ўсім Сьвятым Беларусі (8-мы тон абыходнага расьпеву), музыка В. Скарабагатава. Ёсьць тут таксама трапары ў гонар іконы Менскай Божай Маці архідыякана П. Ляшкевіча і ў гонар Жыровіцкай Божай Маці неназванага кампазытара. Падборка канчаецца выкананьнем, да пэўнай меры жалобным, гімну «Утверди Боже» Касалапава. Этнічнае паходжаньне кампазытараў не названае, што, бяручы на ўвагу агульны характар «царкоўнай музыкі **у** Беларусі», магло разглядацца, як няістотнае.

Музычны стыль паасобных сьпеваў у гэтым разьдзеле паходзіць з украінскае Кіева-Пячэрскае лаўры, спапулярызаваны хорам Загорскага манастыра, ды з адаптацыі сьпеваў сынадальнага абыходу. Найбольш арыгінальнымі выйшлі, бадай, трапары сьв. Кірылу Тураўскаму, сьв. Софіі Слуцкай (камп. Ракіцкага) ды іконе Божай Маці Менскай, якія маюць сувязь зь беларускімі мясцовымі напевамі.

Наступны разьдзел кружэлкі, загалоўлены «Творы беларускіх царкоўных кампазытараў», складаецца з твораў Туранкова й Валынчыка, дасягненьні якіх у гэтай галіне добра ведамыя, ды іншых менш знаных музыкаў: Макарава, Мікалаевіча й Бутомы. Тры зь пяцёх запісаных твораў літургічныя, а два — нелітургічныя канцэрты. Наколькі ведама, толькі творы Туранкова былі раней апублікаваныя.

Агулом бяручы, усе запісаныя кампазыцыі належаць да катэгорыі *прыдворнага* стылю інстытуцыялізаванае расейскае сынадальнае царкоўнае музыкі, без якіх-небудзь выразных спробаў кампазытараў адыйсьці на больш арыгінальную глебу, як гэта рабілі вялікія расейскія кампазытары А. Кастальскі, П. Чэснакоў і С. Рахманінаў у першай палавіне гэтага стагодзьдзя. Няма згадкі таксама й пра мясцовыя напевы Супрасьля, Жыровічаў ды іншых традыцыйных ірмалояў, знойдзеных і задакумэнтаваных Ю. Ясіноўскім (гл. Беларускія ірмалоі — помнікі музычнага мастацтва 16-17 ст., «Мастацтва Беларусі», 1984, № 11, 51-55), або пра паралітургічныя народныя песьні. Гэта, пэўна-ж, ведама, што заходне-эўрапейскія элемэнты *прыдворнага* стылю былі больш прывабнымі Беларусам і Ўкраінцам, як Расейцам, якія першыя адмовіліся ад іх. Гэтая прывабнасьць відавочная ў падборцы гімнаў з твораў беларускіх кампазытараў у гэтым разьдзеле кружэлкі.

Трапар Сьв. Тройцы Ф. Макарава належыць да клясычных аранжыровак 8-га тону абыходнага канту з мэлёдыяй, якая, мяняючыся, стварае ці малы драматычны эфэкт. Выбар Валынчыкавае музыкі для стыхіра Казанскай іконе Божай Маці, каб паказаць гэтым уклад у Тысячагодзьдзе, выдаецца дзіўным: заступніцтва іконы за царскія арміі ў 1812 годзе прынесла мала карысьці беларускаму народу, які, праўдападобна, далучыўся да сваіх і каталіцкіх і праваслаўных іерархаў, епіскапаў Дэдэрка і Варлаама Шышацкага з Магілева ў малітве (як і Кастусь Каліноўскі зрабіў пазьней) за ўдачу Французаў. Ну, што-ж, кампазыцыя Валынчыка «Яко велика сущи» — добрая музыка, яна адзначаецца мэлядычнай вынаходлівасьцяй, што нагадвае творы Туранкова, ёй уласьцівы драматызм лепшых беларускіх твораў *прыдворнай* школы.

Мікалаевічава «Хвали, душе моя, Господа» — таксама абгладжаны музычны нумар *прыдворнага* стылю, што вагаецца паміж прадуманай простасьцяй і багатым гарманічным разваротам, каб завяршыцца пасьля мамэнтам уздыму. Як выглядае, гэта становіць асаблівую рысу беларускае школы, нешта наводля кантрасту паміж лагоднымі адценьнямі чырвонага, белага й блакітнага колераў у беларускай іканаграфіі XVII ст. на фоне багатае пазалотаю парчы.

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

**Гай Пікарда**

## ПЕРАКЛАДАЮЦЦА БАГАСЛУЖБЫ Й БІБЛІЯ

У інтэрв'ю, якое ўзяў для газэты «Ніва» др. Аляксандар Баршчэўскі ў ксяндза Уладыслава Чарняўскага («Ніва», 25.XII.88) а. Чарняўскі, настаяцель каталіцкага прыходу ў Вішневе Валожынскага раёну, сказаў, што Папа Павал VI даручыў яму справу перакладу Бібліі ў беларускую мову. «І вось, — сказаў кс. Чарняўскі, — пачынаючы ад 1968 году, працую над перакладам. Пераклаў літургію на круглы год, уключна з усімі сьвятамі і ўрачыстасьцямі, а таксама Імшал. Многае я ўжо пераслаў праз Маскву ў Рым. Цяпер перакладаю Біблію і ўжо пераклаў болей палавіны. Сьпяшаюся, баюся, каб сьмерць не перашкодзіла мне давесьці справу да канца. Спадзяюся, што пераклад выйдзе ў Лёндане ў Бібліятэцы імя Ф. Скарыны».

## МІТР. ФІЛАРЭТ ПРА ПЕРАКЛАД БІБЛІІ

Паводля беларускага савецкага крытыка Анатоля Сідарэвіча, Мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт «выказаўся аб неабходнасьці» навуковага перакладу Бібліі ў беларускую мову. Пра гэта Сідарэвіч напісаў у газэце «ЛіМ» (9.XII.88) у артыкуле пад заг. «Пачынаць з падмурка». Там-жа аўтар зазначае, аднак, што на Беларусі сёньня няма спэцыялістаў зь веданьнем старагэбрэйскай і старагрэцкай моваў, зь веданьнем біблістыкі й патрыстыкі.

**Тым ня менш прызнаньне Мітр. Філарэтам патрэбы перакладу — прынцыпова важны крок наперад.**

Рэдакцыі «Беларуса» ведама зь неафіцыйных крыніцаў, што перакладам Бібліі ў беларускую мову займаецца цяпер група баптыстаў у супрацоўніцтве з адным выдавецтвам на Захадзе.

**Джуды Полкаў**

## ОЙЧА НАШ

*Ойча наш,*
*Каторы жыве між нас,*
*Няхай мы пачуем музыку імя Твайго,*

*Няхай прарасьце жыцьцё Твае*
*І ласка Твая*
*У жыцьцях нашых*
*Падчас як мы молім Цябе,*

*Дай нам сёньня*
*Патрэбу ў чым маем,*
*Дай спаўна нам, даўжнікам Тваім,*
*Гэтаксама як мы спаўна*
*Дамо даўжнікам нашым,*

*І вядзі нас у царства сьвятла Твайго*
*І пазбаў нас*
*Ад ценю нашага ўласнага,*

*Бо-ж Ты ёсьць жыцьцё наша*
*І спадзяваньне наша,*

*Назаўсёды*
*Во цяпер*
*І навекі вечныя.*

## МОЛІМ ЦЯБЕ, МАРЫЯ

*Твар Твой, Марыя, увесь ў сьвятліні,*
*Сьвецiш вясёлкаю Ты вышыні,*
*Мацерка Бога нашага Ты.*
*Як галінкі лагоду вятроў,*
*Гэтак чуем Тваю мы любоў.*

*Міласэрнымі рукамі Сваймі*
*Зямлю нашу гаротную абымі.*
*Прытулі нас усіх да сэрца Свайго,*
*Загаі сьвету гэтага боль.*

*Навучы зразумець нас на гэтай зямлі,*
*Што усе ад Цябе мы пайшлі,*
*Што усе мы гаротныя як адзін,*
*Што у роду людзкога адзіны сын.*

*І калі страху жудкага цень*
*Зацьміць сонца, зачэрніць дзень,*
*Ты падай нам руку і нас,*
*Маці наша, ў сьмяротны той час*
*Накіруй у ахоўную хату Сваю.*

*З ангельскай*
***М. Сяднёў***

## АДНАВІЦЬ УКРАІНСКУЮ Й БЕЛАРУСКУЮ ЦЭРКВЫ!

Самвыдавецкі «Ўкраінскі Весьнік» (нр. 9-10) апублікаваў ліст, які Віталь Шаўчэнка напісаў у газэту «Известия» ў травені 1987 г. ў сувязі з Тысячагодзьдзем хрысьціянства на Ўкраіне й Беларусі. В. Шаўчэнка, атэіст, глядзіць на Расейскую праваслаўную Царкву, як на прыладу русыфікацыі. Русыфікацыйны характар расейскага праваслаўя, паводля аўтара ліста, пацьвярджаецца фактам забароны ўкраінскае і беларускае цэркваў, а таксама тым, што ў СССР, дзе было ўжо колькі выданьняў «Бібліі» расейскаю моваю, ні разу гэтая кніга ня была выдадзеная моваю ўкраінскаю ці беларускаю.

Савецкая Канстытуцыя кажа, што «Царква ў СССР адзьдзеленая ад дзяржавы і школа — ад Царквы». Калі так, зазначае аўтар ліста Шаўчэнка, дык чаму-ж тады дзяржава забараняе родныя Цэрквы двум немалым эўрапейскім народам?

Шаўчэнкаў ліст і ягоныя «Высновы», да якіх ён прыйшоў пасьля гутаркі з упаўнаважаным да справаў рэлігіі гор. Кіева Г. Сікорскім, зьмешчаныя ў 40-м нумары ўкраінскага часапісу «Смолоскип», што выходзіць у штаце Мэрыленд.

## УЗНАЎЛЕНЬНЕ КАЛЯДНЫХ ТРАДЫЦЫЯЎ

З прыходам галоснасьці й перабудовы пачаўся ў Беларусі сякі-такі рэнэсанс беларускіх апрычоных традыцыяў, як гуканьне вясны, купальле й калядныя звычаі. Нагадем тут, у якой форме цяпер узнавіліся калядныя абычаі.

У тыднёвіку «Голас Радзімы» за 7-га студзеня летась зьявілася зацемка пад заг. «Калядачкі, хоць нядзелечку працягніцеся», у якой апісваецца народжанае яшчэ паганствам навагодняе, радаснае, карнавальнае й песеннае сьвята Каляды. Як бачым, нічога рэлігійнага ў гэтым сьвяткаваньні няма, бо атэізм адкінуў рэлігію, як опіюм народу. Як ведама, у паганскія часы людзі верылі, што праца й быт народу поўнасьцяй былі залежныя ад сілаў прыроды. Аністычны (або адухаўлёны) сьветапогляд увёў адухаўленьне й абагульненьне гэтых сілаў, нарадзіў цэлую пляяду багоў і стварыў у іхны гонар шмат разнастайных калярытных абрадаў. Гэтыя абрады зьявіліся ў сувязі з рознымі порамі году й падзяліліся на зімовыя, веснавыя, летнія й восеньскія. Гэткім чынам вырас у народнай творчасьці сэзонна-абрадавы песенны цыкль, зь якога асаблівай папулярнасьцяй цешыліся, захаваныя нат да сяньня, веснавыя гукальныя песьні, летнія купальскія песьні, зімовыя калядныя песьні ды ігрышча з казлом або казою. Але з прыходам хрысьціянства гэтыя абрады пачалі насычвацца духам рэлігійным і маральлю хрысьціянскай.

А вось прыгледзьмася, як адзначыўся калядны абрад у 1987 годзе ў Беларусі, паводля «Голасу Радзімы». Насамперш калядоўшчыкі выйшлі на вуліцу і прапяялі: «Добры вечар, шчодры вечар». Далей перад хатамі пяялі пахвальныя словы аб працавітасьці гаспадара, нязьлічоным багацьці яго гаспадаркі, дасужнасьці гаспадыні, прыгожасьці дачкі, сьмеласьці сына, ну, і за гэта атрымалі гасьцінца. Асаблівую калярытнасьць надавалі каляднаму натоўпу фігура казы — сымбаль урадлівасьці, дух жытнёвага поля, мядзьведзь — татэмны продак, жораў, бусел, пакараныя за парушэньне звычайных нормаў людзей, кабылка — водгук прыручэньня дзікіх жывёлаў і сымбаль дабрабыту гаспадаркі, зорка, як знак сілаў дабра й сьвятла. Часта іх дапаўняюць розныя гумарыстычныя вобразы.

Неад'емная частка Каляды — карагоды-гульні. Асабліва цікавая гульня «Жаніцьба Цярэшкі» — водгук старажытнай эпохі дапарнай сям'і. Цяпер гэтая гульня ператтварылася ў цэлы абрадава-гульнёвы калядны вечар з танцамі-карагодамі, калядкамі, цярэшкамі, жартоўнага характару, заляцаньнямі дзяўчатаў і хлапцоў. Часта гурты калядоўшчыкаў дапаўняліся лялечнымі або жывымі батлейкамі.

Спадзяемся, што ўзнаўленьне народных традыцыяў будзе ісьці шпаркім крокам і ачысьціць ад бросьні прымусовага забыцьця апрычоных абрадаў, што становяць стрыжэнь нашай духовай культуры.

**Др. Вітаўт Рамук**




*Мэдаль (кераміка), зроблены ў менскім клюбе «Спадчына» на адзначэньне 500-х угодкаў ад нараджэньня Францішка Скарыны. На франтавым боку мэдаля — выява Ф. Скарыны (зьлева ў кружку — «Пагоня», справа — Скарынава эмблема Сонца зь Месяцам) і напіс на істужцы: «Францыск Скарына. 500». На адваротным боку мэдаля — эмблема клюбу: дуб, як сымбаль моцы нацыянальнае спадчыны, і жолуд ля каранёў, як знак закладзенага ў спадчыне патэнцыялу культурнага росту нацыі. Аўтар мэдаля нам не ведамы.*

## СКАРЫНАВЕДНАЯ КНІГА «ЗАПІСАЎ»

Васемнаццатая кніга «Запісаў» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, прысьвечаная ў асноўным скарыназнаўству: дасьледнік Сымон Брага аналізуе ранейшыя й новыя дакумэнты аб Францішку Скарыну, зьвязаныя зь ягоным апошнім этапам жыцьця, калі ён жыў ізноў у Празе, займаючы пасаду каралеўскага садаўніка-батаніка. Дакумэнты, пераважна актавыя запісы, знойдзеныя ў архівах Чэхаславаччыны, дазваляюць з большай дакладнасьцяй азначыць прыблізную дату (год) сьмерці Скарыны. З аналізу вынікае, што Скарына прабыў у Празе садаўніком каля пяцёх гадоў ды што памёр каля 1540 году.

Цікавы й зусім новы аналіз скарынаўскіх друкаў з унівэрсытэцкае бібліятэкі гор. Любляна (Славэнія, Югаславія) дае др. Вітаўт Тумаш у артыкуле «Люблянская Скарыніяна».

Каля паловы 18-й кнігі «Запісаў» займае арытыкул «Скарыніяна ў ліставаньні: лісты 1965-1968 гг.». Гэта ліставаньне др. Вітаўта Тумаша з чэскім скарыністам і гісторыкам Антонам Флароўскім. Асноўная ўвага ў ліставаньні сьціраваная на тэму, якою два дасьледнікі займаліся дзесяцігоддзямі — раскрыцьцё й аналіз этапаў жыцьця й дзейнасьці Францішка Скарыны. У выніку ліставаньня Тумаша з Флароўскім былі абгрунтаваныя некаторыя крокі да далейшых пошукаў фактаў з жыцьця й дзейнасьці Францішка Скарыны як у Заходняй Эўропе, гэтак і на ўсходзе Эўропы.

Ліставаньне двух дасьледнікаў паказвае на вельмі плённую сувязь між навукоўцамі Захаду ды Ўсходу. У «Запісах» зьмешчаны таксама фатаздымак Антона Флароўскага; дасюль гэта, бадай, ці не адзіны друкаваны здымак гэтага вучонага.

Артыкул нябожчыка праф. Яна Садоўскага прысьвечаны аналізу марфалягічных асаблівасьцяў «Кнігі Царстваў» у перакладзе й выданьні Францішка Скарыны.

Пяру др. Вітаўта Тумаша належыць і іншы артыкул на тэму дасюль не крананую глыбака дасьледнікамі — «Скарынаў каляндар і каляндарная сыстэма Беларусі яго пары». Як адзначае аўтар, «Скарынаў каляндар, першы друкаваны беларускі каляндар, навукова цікавы з колькіх аспэктаў. Перш-наперш гэта ўнікальны помнік самых пачаткаў беларускага кнігадруку, цікавы гісторыкам друку сваім друкарска-графічна афармленьнем... Мова каляндара зь беларускімі назвамі месяцаў, знакаў задыяка ды іншымі асаблівасьцямі... Цікавыя й Скарынавыя каляндарна-астранамічныя даведкі.., а таксама пададзены Скарынам падзённы пералік сьвятых і сьвятаў для ўсяго году».

Прааналізаваныя ў календары назовы месяцаў, назовы дзён тыдня, астранамічныя дадзеныя, а таксама перадрукаваная Скарынава «Паскалія», якая была выдадзеная ў Вільні ў 1522 годзе; аўтар склаў альфабэтны паказьнік сьвятых і сьвятаў Скарынавана календара.

Зачыняе дасьледны разьдзел новае кнігі «Запісаў» перадрук, упяршыню, «Малое Падарожнае Кніжкі» доктара Францішка Скарыны 1522 году выданьня. Гэтак вось ізноў перадрук важнага Скарынавага выданьня ўпяршыню зьявіўся на Захадзе, а не на бацькаўшчыне Скарыны.

У разьдзеле рэцэньзіяў разгледжаны «Слоўнік мовы Скарыны» (Мінск, 1977), а навуковая хроніка ахапляе гады 1980-81.

Новая кніга «Запісаў» прыгожа выдрукаваная кампютэрным спосабам сп. Кастусём Акулам.

*18-ю кнігу «Запісаў» можна набыць, цана 20.00 ам. дал., у:*

BINIM
230 Springfield Ave.
Rutherford, N.J. 07070

## БЕЛЫЯ ПЛЯМЫ СКАРЫНАВЕДЫ

Адзначэньне 500-годзьдзя ад нараджэньня Францішка Скарыны пачынае шырэй і шырэй праводзіцца ў беларускім савецкім друку. Былі слушна выказаныя думкі, што аб Скарыну павінен ведаць кажны вучань ды жыхар Беларусі. Тым ня менш ёсьць у скарыніяне ў БССР яшчэ й «белыя плямы». Адна зь іх — гэта адсутнасьць цэнтру скарынаведы на Беларусі. Цэнтру, дзе былі-б сабраныя ўсе Скарынавы друкі ды літаратура аб ім. Трэба сьцьвердзіць, што гэткія цэнтры сёньня ёсьць у Ленінградзе, Маскве, але аніяк ня ў Менску, Полацку ці Вільні, дзе гэткі цэнтр мусіў-бы быць перш-наперш. Калі заходні дасьледнік едзе ў Савецкі Саюз вывучаць Скарыну, то ён не затрымоўваецца ў Менску ці ў Вільні, бо там скарынінскіх матар'ялаў ня шмат. У Менску нават не сабраная скарынаведная літаратура савецкае пары, не гаворачы ўжо пра дарэвалюцыйную літаратуру.

Іншая пляма, і не ткая ўжо «белая» — гэта афіцыйная савецкая тэрміналёгія ў дачыненьні да Францішка Скарыны. І газэта «Голас Радзімы» і «Зьвязда», пішучы аб Скарыне, часта ўжываюць гэткія азначэньні, як «выдавец-інтэрнацыяналіст», «заснавальнік кнігадрукаваньня ў нашай краіне». Выданьнем кнігаў Біблії Скарына, які заўсёды падкрэсьліваў, што ён «з слаўнага гораду Полацку», нёс перш-наперш веду таму народу, зь якога ён паходзіў. Дык і характэрызаваць Скарыну трэба найперш як выдатнага асьветніка Беларусі, а не «інтэрнацыяналіста». Аднак «Голас Радзімы» (2.X.87) расьпісаўся на тэму Скарынавага «інтэрнацыяналізму» так, што «інтэрнацыяналісцкую асьветніцкую эстафету» Скарыны падхапіў выхадзец зь Беларусі Пётра Мсьціславец, «які пачаў разам зь Іванам Фёдаравам рускае кнігадрукаваньне». Вось вам і беларуска-руская супольнасьць — Скарына спалучаны зь Фёдаравам. Бясспрэчна, і Івану Фёдараву належыць выдатнае месца ў гісторыі славянскага кнігадруку (ёсьць дадзеныя, што ён быў з паходжаньня Беларусам), аднак навошта спалучаць беларускага культурнага дзеяча з чалавекам, які ўвайшоў у гісторыю як друкар расейскі. Пагатоў, што гэтыя дзьве асобы вельмі розьняцца і сваёй адукацыяй, і сьветаглядам, і дзейнасьцю.

Калі-ж гаварыць ужо пра Скарыну як «інтэрнацыяналіста», дык варта было-б у БССР заняцца тэмай, якая дасюль была там непапулярная, а гэта — Скарынавай спробай пашырыць сваю друкаваную Біблію ў Маскоўшчыне, дзе, як ведама, ягоныя кніжкі былі спаленыя, бо Масква даўгі час яшчэ ня была падрыхтаваная да ўспрыняцьця ідэяў Адраджэньня.

З выказваньняў Н. Мазай, старшыні арганізацыйнага камітэту для адзначэньня скарынінскага юбілею («Зьвязда», 30.VIII.88), не выглядае, што будуць перагледжаныя школьныя падручнікі БССР. У гэтых-жа падручніках імя Скарыны або зусім ня згадваецца, або ўспамінаецца мімабегам, як другарадная асоба. Пакуль Ф. Скарына ня зойме належнае месца ў падручніках, датуль гэтая выдатная постаць беларускай гісторыі ня ўвойдзе ў арсэнал нацыянальнай культуры.

І яшчэ адной «белай плямай» у скарынаведзе ў БССР тое, што нічога саліднага ня друкуецца ў замежных мовах. Брашурка аб Скарыне, выдадзеная пад грыфам ЮНЭСКО, зусім ня можа прэтэндаваць на навуковую працу, як і зазначалі заходнія скарынаведы. Скарынаведная дзейнасьць у БССР тымчасам застаецца яшчэ ўсё ў плянах і ў «белых плямах».

**В. Зубкоўскі**

## Ф. СКАРЫНА — «НЕЙКІ ПАРТЫЗАН»...

Цяпер толькі, у сувязі зь 500-годзьдзем ад нараджэньня Францішка Скарыны, у БССР пачалі шырэй гаварыць пра першадрукара ўсходніх Славянаў, найвыдатнейшага дзеяча беларускай культуры. Які уплыў будуць мець запланаваныя сьвяткавальныя мерапрыёмствы на стан паінфармаванасьці беларускага савецкага грамадзтва аб Скарыне, яшчэ ня ведама. Тымчасам-жа русыфікатары дамагліся таго, што Беларусы або нічога ня ведаюць пра Скарыну, або дэзынфармаваныя аб ім. Вось два сьвежыя прыклады.

За «круглым сталом» часапісу «Нёман» (№6, 1988) адзін удзельнік дыскусіі В. Вячорка сказаў гэткае:

«Беларуская мова ня ўжываецца ў дзяржаўным жыцьці, у афіцыйнай дакумэнтацыі.

«Тое самае можна сказаць і пра веданьне нашым народам свае гісторыі... Каля помніка Францішку Скарыну ў Полацку сын пытаецца ў бацькі: хто гэта? Бацька адказвае: партызан нейкі... Прыклады можна працягваць».

Другі прыклад. У газэце «Чырвоная зьмена» (10.VIII.88) піша выкладчык Л. Сьмілавіцкі: «З кожных дзесяці абітурыентаў Мінскага інстытуту культуры толькі два чалавекі вам адкажуць, што першую кнігу на тэрыторыі нашай краіны надрукаваў Скарына. Усе астатнія адкажуць, як у падручніку — Іван Фёдараў!»

Расейскае захопніцтва пашыраецца ня толькі на чужыя тэрыторыі, але й на чужую гісторыю...

*З жыцьця ў Кліўленьдзе*

## УЗНАГАРОДА СП. Я. РАКОВІЧУ

У Кліўленьдзе, штат Агаё, 47 этнічных групаў належаць да арганізацыі Рух Амэрыканскіх Нацыянальнасьцяў, на чале якое стаіць былы мэр гораду сп. Ральф Пэрк. Арганізацыя гэтая штагоду ў калядным сэзоне ладзіць Дзень Нацыянальнасьцяў. Урачыстасьць гэткая адбылася 17 сьнежня 1988 году.

У вялікай прыгожай залі сабралася шмат прадстаўнікоў розных групаў на банкет. У часе яго былі ўшанаваныя тры дзеячы нацыянальных групаў, адным зь якіх быў прадстаўнік нашае групы сп. Янка Раковіч. Ушанаваны сп. Раковіч быў трыма граматамі: ад мэра гораду сп. Джорджа Вайновіча, ад гарадзкое рады і ад Палаты Прадстаўнікоў штату Агаё. У гэтым апошнім дакумэнце, прынятым зь ініцыятывы прадстаўнікоў Джэймса Пэтра і Рональда Сустэра, сказана:

«Ад імя сяброў Палаты Прадстаўнікоў 117-й Генэральнай Асамблеі штату Агаё нам прыемна прывітаць сп. Янку Раковіча з нагоды ўшанаваньня яго Рухам Амэрыканскіх Нацыянальнасьцяў.

«Вы запраўды выдатны чалавек, які адзначаецца глыбокай адданасьцяй і безьінтэрэсоўнай ініцыятывай на службе свае грамады. З надзвычайнай самаахвярнасьцяй Вы прысьвяцілі сябе вартаснай грамадзкай дзейнасьці у шмат якіх дзялянках і дамагліся вынікаў, даючы гэтым прыклад адказнага выконваньня сваіх абавязкаў.

«Годныя насьлядоўваньня, Вашы намаганьні ў працы на карысьць паняволеных народаў і правоў чалавека заслужылі Вам павагу ад кожнага, хто Вас ведае і хто памагаў Вам, каб забясьпечыць ўдачу у прадпрыйманых Вамі праектах. Вы дабраахвотна аддавалі свой час, энэргію й здольнасьці, каб палепшыць якасьць жыцьця іншых, і за гэта Вы заслугоўваецце на найвышэйшую пахвалу».

Былы мэр гор. Кліўленду сп. Пэрк і цяперашні мэр сп. Вайновіч, уручаючы сп. Раковічу граматы, адзначылі выдатную актыўнасьць беларускае грамады ў Кліўленьдзе, у тым ліку й добрае супрацоўніцтва з а. Міхасём Страпком, які быў прадстаўлены ўдзельнікам урачыстасьці.

Дзесяць асобаў, што прадстаўлялі на ўрачыстасьці беларускую грамаду, шчыра віталі свайго заслужанага сябру Янку Раковіча ды жадалі яму добрага здароўя і плённай працы ў будучыні.

**Янка Ханенка**

## *КАЛЯДОЎШЧЫКІ НЬЮ-ЁРКУ-НЬЮ-ДЖЭРЗЫ*



*Сябры Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі й танцавальнага ансамблю «Васілёк» культывуюць (пад кіраўніцтвам др. Алы Орса-Рамана) добрую традыцыю калядаваньня. Сёлета ў абʼездзе беларускіх дамоў у Нью-Джэрзы й Нью-Ёрку ўзяло ўдзел 15 асобаў. Сабраныя грошы (больш за тысячу даляраў — вялікі дзякуй шчодрым гаспадаром!) пойдуць часткава на аплату коштаў новых строяў для ансамблю «Васілёк».*

*З жыцьця ў Лёндане (Анг.)*

## СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ

Галоўная ўправа ЗБВБ наладзіла ў нядзелю 27 лістапада 1988 г. ў памешканьні Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны 68-я ўгодкі Абароны Случчыны.

Адчыніў урачыстасьць сп. А. Здановіч, заступнік старшыні ЗБВБ. Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. Я. Сяўковіч, сакратар ЗБВБ. Дакладчык даў шырокі агляд гістарычных падзеяў, расказаў пра абставіны, пры якіх дайшло да ўздыму случчакоў супраць чырвонай Масквы і закончыў сваё вступленьне вершамі Міхася Кавыля «З-пад Случчыны каханай» і Алеся Гаруна «Хто сказаў: і я з народам».

Хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць гэрояў Случчыны.

Сп. Здановіч расказаў пра нядаўна адкрыты помнік Алесю Гаруну ў Кракаве, пра ход кампаніі за вызваленьне М. Кукабакі ды паінфармаваў, што 29 лістапада на брытанскім тэлебачаньні (Бі-Бі-Сі) будзе перададзены пяціхвілінны рэпартаж пра М. Кукабаку (ЗБВБ мае відэазапіс гэтай перадачы).

Сп. Гай Пікарда, адзін з закладчыкаў Англа-Беларускага Таварыства й даўны прыяцель Беларусаў, гаворачы пра Слуцкае паўстаньне, падкрэсьліў гістарычную важнасьць гэтай падзеі і патрэбу ўтрымваньня памяці аб ёй.

Сп. С. Дзейка, удзельнік 18-й Сустрэчы Беларусаў Пн. Амэрыкі ў Тароньце, расказаў пра шматлюдны характар Сустрэчы, пра ансамбль «Дубіны» зь Беласточчыны ды пра Беларускі Крыж у Мідленьдзе.

Урачыстасьць закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

Сп. Здановіч падзякаваў усім за ўдзел ды запрасіў на пачастунак, які быў вельмі ўдала падрыхтаваны сп-няй А. Міхалюк.

**А. З.**

*З жыцьця ў Адэляйдзе (Аўстралія)*

## СХОД ПАРАФІІ

У парафіі царквы Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла адбыўся гадавы сход сяброў. Старшыня сп. Кастусь Станкевіч здаў справаздачу аб гадавой дзейнасьці. Скарбнік сп-ня Наташа Якша прачытала фінансавую справаздачу. Рэвізійная камісія прызнала, што скарбнік вяла справы вельмі добра. Сход падзякаваў царкоўнай управе і выбраў новую, у якую ўвайшлі: Уладзімер Фролаў — старшыня, Алесь Садоўскі — заступнік, Уладзімер Акавіты — сакратар, Кастусь Станкевіч — скарбнік, Аксэнт Чорнагалан — сябра.

**У. Акавіты**

## СЛУХАНЬНЕ ІНТЭРВ'Ю З М. КУКАБАКАМ

У Нью-Ёрку ў памешканьні Фундацыі імя П. Крэчэўскага адбылося 13-га студзеня сёлета публічнае праслуханьне інтэрвʼю, якое Міхал Кукабака даў з Масквы Беларускай рэдакцыі радыё «Свабода» ў Мюнхэне. У 20-хвіліннай гутарцы Кукабака выказаў крытычны пагляд на ход «перабудовы», сказаў, што ён і надалей адмаўляецца ад савецкага грамадзянства ды што пераканаваны ў няўхільнасьці нацыянальнага адраджэньня Беларусі.

Міхал Кукабака, які гаварыў парасейску, сказаў, што ён — ахвяра русыфікацыі. Ён даў згоду, каб інтэрвʼю было перададзенае на Беларусь.

Др. Янка Запруднік расказаў пра апошнія падзеі на Беларусі, дзе маладая інтэлігенцыя ідзе ў авангардзе нацыянальна-культурнага адраджэньня.

Вечар закончыўся сустрэчай «старога» Новага Году. Удзельнікі дзякавалі старшыні Фундацыі сп. Франьцішку Бартулю й сп-ні Веры Бартуль за добра наладжанае спатканьне.

## ПОМНІК Ф. СКАРЫНУ Ў МЕНСКУ

Бюро ЦК КПБ пастанавіла, каб 500-я ўгодкі ад нараджэньня Франьцішка Скарыны былі адзначаныя пабудовай у Менску помніка гэтаму «слыннаму палачаніну, першадрукару, мысьліцелю-асьветніку, вучонаму, перакладчыку і пісьменьніку эпохі Адраджэньня». («ЛіМ», 28.X.88).

## *КОРАТКА АБ ВАЖНЫМ*

• На пленуме праўленьня СП БССР 8.XII.88 прадстаўнік ЦК КПБ А. Бутэвіч паведаміў, што «з наступнага году беларуская мова ў рускамоўных школах (БССР) будзе вывучацца зь першае клясы». («ЛіМ», 23.XII.88)

• «У хуткім часе назвы вуліцаў гораду (Ліды) будуць напісаны на рускай і беларускай мовах, у гэтым-жа напрамку пераглядаецца гандлёвая рэкляма». («Чырвоная Зьмена», 8.XII.88)

• На выстаўцы маладых мастакоў у Менску, што праходзіла ў сакавіку-красавіку летась і была прысьвечаная 70-годзьдзю камсамолу, «амаль ня было твораў на тэму мінулай вайны», але затое было шмат твораў на тэму гісторыі беларускай культуры ды сталінскіх рэпрэсіяў. («Мастацтва Беларусі», 1988, № 10, 14)

• «Мінскі гарком партыі рэгулярна, раз у тыдзень, зьбірае сваіх апаратчыкаў, ідэёлягаў гораду на перападрыхтоўку, дзе паглыблена вывучаюцца гісторыя, мова, культура народу. У цэлым гэта зварот да беларусазнаўства, якое пацярпела ад палітычнага дыктату, шальмаваньня, сталінскіх рэпрэсій у канцы дваццатых-трыццатых гадох, і сёньня надзвычай паказальны». («Беларусь», 1988, № 10, 13)

## УГОДКІ СЬВЯТАРСТВА а. А. НАДСОНА

23 лістапада 1988 г. споўнілася 30 год сьвятарства а. Аляксандра Надсона, Апостальскага Візытатара для Беларусаў. Юбілей гэты верныя Канады адзначылі 24 лістапада. У касьцёле Сьв. Марыі ў Бэры, Антарыё, а. Пол Сэбор адправіў на інтэнцыю а. Аляксандра сьв. Літургію. Пасьля багаслужбы ў кватэры ініцыятараў сьвяткаваньня адбылася застольная бяседа ў гонар Юбіляра, якому ўдзельнікі выказалі пажаданьне словамі з кнігі Лікаў (6:24-26):

«Хай Усемагутны блаславіць і мае цябе ў Сваёй апецы. Хай Боскае аблічча асьвеціць цябе Сваёй ласкай. Хай Бог адкрые перад табой Сваё аблічча й даруе табе спакой».

**Р. Ж.-Г.**

## «ВЕСЬНІК»

### Беларускага Каталіцкага Душпастырства

У калядным нумары:

Прыйдзі, Хрысьце! — калядная гутарка а. Аляксандра Надсона; Сьвяткаваньні тысячагодзьдзя хрысьціянства ў Беларусі (хроніка); думкі аднаго Беларуса з Бацькаўшчыны аб рэлігійным паложаньні ў Беларусі; новыя выданьні («Радыё Ватыкан» і «Хрысьціянскія Навіны. Беларускі Інфарматар»).

## «ЧЫКАГА ТРЫБЮН» ПРА М. КУКАБАКУ

Газэта «Чыкага Трыбюн» (25.XII.88) зьмясьціла інтэрвʼю свайго маскоўскага карэспандэнта Вінцэнта Схадольскага з выпушчаным нядаўна на волю беларускім іншадумцам Міхалам Кукабакам. У артыкуле пададзеная гісторыя перасьледу Кукабакі, які правёў 16 гадоў у зьняволеньні. Кукабака сказаў, што сытуацыя ў Савецкім Саюзе ня будзе стабільнай датуль, пакуль палітычны лад ня будзе апірацца на законах, а не на асобе лідэра. На думку Кукабакі, палітычныя вязьні ў СССР былі вызваленыя не дзеля гуманітарнасьці савецкіх уладаў, а дзеля таго, што вызваленьня дамагаўся Захад, ад якога цяпер Савецкі Саюз спадзяецца дастаць крэдыты.

Як і акадэмік Андрэй Сахараў, піша газэта, Кукабака ўважае, што вонкавы сьвет павінен блізка сачыць далейшы ход рэформаў у СССР.

## *ІНТЭРВ'Ю З ВОЛЬГАЙ КОРБУТ*

Папулярная газэта «Советский спорт» (17.XII.88) зьмясьціла інтэрвʼю з Вольгай Корбут пасьля ейнага пабыту ў Амэрыцы, дзе былая «каралева гімнастыкі» разам з мужам сьпеваком Леанідам Барткевічам была ў гасьцёх у сваіх беларускіх знаёмых.

У Амэрыцы, сказала Корбут, ёй зрабілі прапанову адчыніць «афіцыйную школу Вольгі Корбут». А ў амэрыканскай Фэдэрацыі Гімнастыкі была выказаная думка, каб зрабіць мастацкі фільм пра ейнае жыцьцё, долю. Гэтай ідэяй зацікавіўся славуты амэрыканскі сьпявак Майкл Джэксан. Магчыма, ён і сам здымаецца ў фільме.

## «НАЦЫЯНАЛІСТЫ» Я. КУПАЛА І В. БЫКАЎ

«Гісторык Коўкель, чытаючы ў Гродне лекцыі ў інстытуце ўдасканаленьня настаўнікаў, 400 вершаў Купалы абʼявіў нацыяналістычнымі, В. Быкава называе 'дальнабойнай артылерыяй беларускага нацыяналізму' і г.д.». («ЛіМ, 23.XII.88)

 



# СЬВ. ПАМ. ЗІНА СТАНКЕВІЧ



Яшчэ адну цяжкую страту панесла ньюёркская беларуская калёнія: 13 лістапада 1988 г. на 78-м годзе працавітага жыцьця адыйшла ў вечнасьць сьветлай памяці Зіна Станкевіч, настаўніца беларускіх школаў на Бацькаўшчыне й на эміграцыі, журналістка, супрацоўніца беларускіх газэтаў «Бацькаўшчына» й «Беларус», рэдактар дзіцячага часапісу «Каласкі», які выдаваўся пры «Бацькаўшчыне», і «Жаночай Старонкі» пры «Беларусе», актыўная грамадзкая працаўніца, сяброўка галоўнай управы БАЗА і старшыня жаноцкай арганізацыі.

Сьв. пам. Зіна Станкевіч нарадзілася 2 сьнежня 1909 г. ў Магілеве, дзе ейны бацька Якуб Сініцын быў афіцэрам царскай арміі. У 1918 г. пасьля бальшавіцкай рэвалюцыі сям'я Сініцыных перабралася ў Нясьвіж на радзіму маці пакойніцы, Марыі Батура.

Вучыцца с.п. Зіна пачала ў 1919 г. спачатку ў нясьвіжскай прыватнай расейскай гімназіі, а пасьля ейнай ліквідацыі перайшла ў дзяржаўную польскую гімназію, якую скончыла ў 1930 г. і паступіла на матэматычна-прыродаведны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. У 1935 г. скончыла ўнівэрсытэт з тытулам магістра філязофіі ў галіне батанікі. Ейная дыплёмная праца «Сем'і расьлінаў на тарфяніках пад Нясьвіжам» атрымала вельмі добрую ацэнку і была выдрукаваная ў прыродаведнай сэрыі працаў ўнівэрсытэту.

Па сканчэньні вышэйшай асьветы нябожчыца працавала пэўны час асыстэнткай пры катэдры батанікі, а пасьля — настаўніцай у польскіх гімназіях у Нясьвіжы, Шчучыне ды ў Навагрудку.

У 1939 г. выйшла замуж за др. Станіслава Станкевіча. Сужэнства было ўдалае і для беларускай грамадзкай справы: др. Станкевіч ня змог-бы дасягнуць такіх вынікаў у сваёй грамадзкай працы без дапамогі жонкі.

Гады вайны нябожчыца працавала выкладчыцай у Беларускай настаўніцкай сэмінарыі ў Нясьвіжы.

У 1944 г. перад наступам савецкай арміі сям'я Станкевічаў перабралася ў Нямеччыну, дзе, па вайне ўжо, сьв. пам. Зіна працавала настаўніцай у гімназіі імя Янкі Купалы, а таксама дапамагала мужу пры выдаваньні газэты «Бацькаўшчына».

Ад 1952 г. яна рэдагуе месячны дадатак для дзяцей «Каласкі». Часапіс гэты, багата ілюстраваны, цікавы зьместам, быў лучнікам беларускай дзетвары ў розных краінах Захаду. У 1957 г. ў выдавецтве «Бацькаўшчына» выйшаў, дзякуючы стараньням і рэдакцыйнай працы нябожчыцы, зборнік беларускіх казак, які меў служыць дапаможнікам пры вывучэньні беларускай мовы на чужыне.

Пераехаўшы настала ў ЗША ў 1962 г., нябожчыца ўлучаецца ў арганізацыйнае жыцьцё беларускай калёніі ў Нью-Ёрку, выконваючы розныя функцыі ў Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньні, беларускай сыботняй школе для дзяцей, выконвае функцыі старшыні жаноцкай арганізацыі ды шмат дапамагае мужу пры выдаваньні «Беларуса», рэдагуе «Жаночую Старонку» гэтай газэты.

Сваёй адданай і бязьінтэрэсоўнай працай на грамадзкай ніве нябожчыца заслужыла ўдзячнасьць нашчадкаў і вечную сярод іх памяць

**Антон Шукелайць**

### З выступленьня сп. Міхася Тулейкі на памінкавай бяседзе 16 лістапада 1988 г.

Я меў шчасьце ведаць сьв. пам. Зіну Станкевіч, калі быў юнаком і жыў вельмі блізка каля ейнае радні ў Нясьвіжы. Зіна Сініцына тады канчала гімназію, а я, пры ейнай дапамозе, пачынаў здабываць сярэднюю асьвету. Тую ахвярную дапамогу яе я ніколі не забыўся. Як пасьля моцна пераканаўся, пакойная Зіна Сініцына ад маладосьці імкнулася пашыраць навуку й культуру, жыцьцё сваё прысьвяціла гэтай справе, бо ўсёй душой любіла свой народ, яго мову й культуру.

Такім-жа быў і ейны муж сьветлай памяці др. Станіслаў Станкевіч, нацыянальная дзейнасьць якога захапляла й натхняла пакойную Зіну ўжо ў студэнцкія часы ў Вільні. Беларускае студэнцкае асяродзьдзе, Вільня, ейны муж Станіслаў і сьвядомая радня ў Нясьвіжы, асабліва старэйшая сястра Вера, укультывавалі ейны сьветагляд і вялікую любасьць да беларускай нацыянальна-вызвольнай справы.

Незважаючы на цяжкое жыцьцё й кволае здароўе, яна заўсёды знаходзіла час для грамадзкай і культурна-асьветнай працы. Пачатак ейнае дзейнасьці быў на бацькаўшчыне, а пасьля Другой сусьветнай вайны праца разгарнулася ў лягерох для перасяленцаў у Нямеччыне. Побач із сваім мужам пакойная Зіна працавала ў выдавецтве «Бацькаўшчына», рэдагавала часапіс для дзяцей «Каласкі», супрацоўнічала пры выдаваньні твораў нашых выдатных пісьменьнікаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна ды іншых.

Прыехаўшы ў ЗША на пачатку 1960-х гадоў, адразу ўключылася з мужам і дачкой Раісай у грамадзка-нацыянальную працу, была дзейнай у БАЗА, памагала выдаваць газэту «Беларус» ад часу, калі рэдактарам яе стаў др. Станіслаў Станкевіч, вяла ў газэце «Жаночую Старонку», шмат цікавых артыкулаў напісала для «Бацькаўшчыны» й «Беларуса».

Нельга ня спомніць тут і працу пакойнай Зіны ў беларускай школе ў Нью-Ёрку, дзе яна многа год вучыла беларускіх дзетак, рыхтавала зь імі п'есы й паказы, асабліва ў калядні час. У галоўнай управе БАЗА яна была рэфэрэнтам сацыяльнай апекі, памагала патрабуючым суродзічам, пры ейным узьдзеяньні нічога ня было прапушчана, што мусіла быць выканана.

Прыемна было слухаць ейныя прамовы, зь якімі яна выступала на розных імпрэзах і бяседах. Вялікую ўвагу аддавала яна з мужам узгадаваньню дачкі Раі, якая годна працягвае дзейнасьць сваіх бацькоў. Мы глыбака спачуваем Раі ў сіроцтве і выказваем нашае шчырае прызнаньне ў любові да Цябе, дарагая Рая.

Няхай-жа сьняцца нашай сястры Зіне Станкевіч родныя гоні, а памяць пра Яе няхай назаўсёды застанецца ў сэрцах нашых.

---

## СЬВ. † ПАМ. АЛЯКСАНДАР СТАГАНОВІЧ

Памёр на 99-м годзе жыцьця 28 сьнежня 1988 г. дарагі муж, бацька, дзед, пра што з глыбокім сумам паведамляе

**Сям'я Стагановіч**

---

Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады БНР з глыбокім сумам паведамляюць пра сьмерць у горадзе Нью-Брансьвіку, Н.-Дж., у Злучаных Штатах

## сьв. пам. АЛЯКСАНДРА СТАГАНОВІЧА

былога заступніка Старшыні Рады БНР М. Абрамчыка, былога пасла ад Беларусаў у сойме міжваеннае Польшчы, шматгадовага грамадзкага й рэлігійнага дзеяча, гарачага беларускага патрыёта, чалавека вялікай душы й сьветлага розуму.

Вечная яму памяць, а сям'і Нябожчыка найглыбейшыя спачуваньні.

---

## ПАХОВІНЫ СЬВ. ПАМ. А. СТАГАНОВІЧА



*Апошні мамэнт разьвітаньня...*

У сыботу 31 сьнежня 1988 г. беларуская грамада Нью-Брансьвіку, Нью-Ёрку й ваколіцаў правяла ў апошні шлях свайго заслужанага й глыбака паважанага суродзіча сьв. пам. Аляксандра Стагановіча, які памёр 28 сьнежня на 99-м годзе жыцьця. Паніхіду адслужыў а. Васіль Андрэюк, настаяцель прыходу царквы Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ у Гайленд-Парку, да якое нябожчык шмат гадоў належаў і ў царкоўным хоры якое сьпяваў. На паніхідзе ў пятніцу 30-га і на адпяваньні наступнага дня ў царкве было шмат людзей, некаторыя здалёк, што зьехаліся аддаць апошнюю пашану чалавеку, які быў для іх увасабленьнем прыкладнага грамадзяніна, хрысьціяніна й патрыёта. Гэтыя якасьці нябожчыка адзначыў а. Васіль у праваджальным слове ў царкве. Пра гэта гаварыў на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку над дамавінай сп. Антон Шукелайць, старшыня БАЗА, даўны прыяцель сям'і Стагановічаў і шматгадовы супрацоўнік памерлага.

За памінальнымі сталмі ў прыцаркоўнай залі др. Янка Запруднік адзначыў высокія духовыя й грамадзянскія якасьці нябожчыка, сп.сп. Міхась Тулейка й Пётра Кажура падзяліліся ўспамінамі пра яго, а сын Леў Стагановіч расказаў пра складаны жыцьцёвы шлях бацькі.

Удзельнікі пахаваньня выказалі шчырыя спачуваньні ўдаве сп-ні Марыі Стагановіч, сыном Лёву й Юрку з жонкай, дачцы Тамары Кольба ды ўнучцы Тамары Стагановіч.

---

Пасьля кароткае хваробы, на 82-м годзе жыцьця, адыйшоў на вечны супакой наш дарагі муж, бацька, дзед і прадзед

## сьв. пам. ПЁТРА РАКУЦЬ

пакінуўшы ў суме жонку Ядзю, сыноў Валодзю й Колю, дачку Марусю, васьмёх унукаў і аднаго праўнука.

Нарадзіўся ён 5 кастрычніка 1907 г. ў вёсцы Яруцічы Слонімскага павету, сын Васіля й Паўліны (Шастак) Ракуць. Памёр 19 сьнежня 1988 году.

---

### *СУПОЛЬНАЯ МАЛІТВА ВЭТЭРАНАЎ*

Сп. Пётра Кажура, як прадстаўнік ад задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, узяў удзел у ўшанаваньні памяці амэрыканскіх вэтэранаў, якая была праведзеная Вэтэранскім Саюзам Рарытанскае Даліны ў Гайленд-Парку 11-га лістапада, традыцыйны ў Амэрыцы Дзень памяці аб сваіх жаўнерах. Багаслужба была адпраўленая каталіцкім і пратэстанцкім сьвятарамі ў каталіцкім касьцеле Сьв. Паўла.

### «ЗВАЖАЙ» № 4(52).

**Лістапад 1988 г.**

У нумары:

К. Акула — Ніколі ня позна; 18-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі (ілюстрацыі); К. Мерляк — Вызваленьне Беларусі магчымае!; Я. Б-ка — Вайна 1812 году і беларускія Жыды; (працяг); Пасьля Чарнобыля... варвары руйнуюць Палесьсе: (заканчэньне); Адкрылі помнік Гаруну (рэпартаж з Кракава); хроніка.

 

## *БЕЛАРУСЬ: АДРАДЖЭНЬНЕ*

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

Красамоўнае маўчаньне «бацькі» перабудовы наконт гэтак хваравлівых беларускіх праблемаў было аднэй з прычынаў зьяўленьня масавага руху на абарону роднае мовы й культуры. Вяршалінай гэтага руху стаўся масавы мітынг 16 чэрвеня 1986 году ў Курапатах, скліканы зь ініцыятывы «Талакі», у якім, паводле навочных сьветкаў, узяло ўдзел каля 25 тысячаў чалавек. Мітынг гэты адбыўся незважаючы на тое, што ўлады афіцыйна забаранілі яго, насуперак актыўнаму супрацьдзеяньню партыйных прапагандыстаў і міліцыі. Гэта сьветчыць аб тым, што беларускім адраджэнцам удалося пераадолець вельмі важны парог станаўленьня свайго руху, які вызначае пачатак запраўды масавага народнага падтрыманьня ідэяў беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Драматычныя падзеі ў Беларусі і маштабы руху ў абароне беларускае мовы й нацыянальнае культуры адчыняюць перад Беларусамі ўнікальную магчымасьць запярэчыць застарэлым уяўленьням аб беларускім народзе як аб найбольш аморфнай і падатлівай на які-хаця цiск нацыянальнай групе Савецкага Саюзу. Аналіз перабудовачных працэсаў у БССР дазваляе зрабіць адназначную высновy: у Беларусі пачалося нацыянальнае адраджэньне, вынікі якога цяжка прадбачыць, такжа, як цяжка прагназаваць наогул пэрспэктывы разьвіцьця перабудовы.

## НАВАГРАДАК — «ЦЭНТАР МАГУТНАЙ ДЗЯРЖАВЫ»

Савецкі гісторык В. Н. Вінаградаў, рэцэнзуючы ў часапісе «Вопросы истории» (1988, № 1, б. 124) кніжку беларускага аўтара Міколы Ўлашчыка «Введение в изучение белорусско-литовского летописания» (Масква, «Наука», 1985) адзначыў гэткі мамэнт:

«Асаблівая ўвага аддадзеная ў кнізе пытаньню аб фармаваньні дзяржаўнай тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. У легендарнай гісторыі Літвы найбольш важнае месца адведзенае, як ні дзіўна, ня літоўскім гарадом, а беларускаму Навагрудку, дзе, паводля паданьня, кіравалі беспасярэднія нашчадкі Палемона [сваяка рымскага імпэратара Нэрона] аж да ўжо гістарычных пэрсанажаў — Міндоўга і ягонага сына Вайшэлка. Аналізуючы сказнае, М. Улашчык выставіў меркаваньне, што легенда пра Навагрудак як цэнтар магутнай дзяржавы зьвязаная з роляй, якую ягоныя жыхары адыгралі ва ўмацаваньні на літоўскім пасадзе Вайшэлка. Паданьні, адлюстраваныя ў сказаньні, часта недакладныя, асабліва ў дэталях. Аднак дадзеныя Іпатаўскага летапісу дазваляюць аўтару цьвердзіць, што ў XIII ст. Навагрудзкае княства запраўды было незалежным і ад Валыні, і ад Літвы, кіравалася рускімі, а на нейкім этапе літоўскімі князямі, якія здолелі пашырыць сваю ўладу на паўдзённы-ўсход Беларусі. І хоць сказаньне ўсё-ж перабольшвае тэрыторыю гэтага княства, 'палітычная значнасьць Навагрудка ў тым часе была вельмі вялікая'».

### *НАСЬЦЕННЫЯ КАЛЕНДАРЫ*

Парафіі праваслаўных цэркваў Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку, Н.-Дж., Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, Н.-Дж., і Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле, Н.-Ё., выдалі насьценныя календары на 1989 год.

## УПЯРШЫНЮ ЗА СОРАК ГАДОЎ

Упяршыню за сорак гадоў у Менску адбылося адзначэньне ўгодкаў прыняцьця Ўсеагульнай Дэклярацыі Правоў Чалавека. У Доме культуры менскага швэйнага аб'яднаньня адбылася дыскусія аб правох чалавека, арганізаваная маладзежным палітычным клюбам «Сучасьнік», з удзелам маладых вучоных з АН БССР. У ходзе спрэчак разглядалася пытаньне, ці была законнай забарона гарадзкімі ўладамі Менску мітынгу-рэквіему 30 кастрычніка 1988 году. Удзельнікі сходу выказалі прапанову стварыць у рэспубліцы камісію для правоў чалавека. (*Паводля «ЛіМ», 23.XII.88)*

### ТЭКСТ УСЕАГУЛЬНАЙ ДЭКЛЯРАЦЫІ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

У выдавецтве «Беларус» выйшаў асобнай брашурай тэкст Усеагульнай Дэклярацыі Правоў Чалавека, прынятай Генэральнай Асамблеяй 10.XII.1948 г. Цана брашуры: адзін даляр. У БССР дакумэнт гэты практычна нікому не даступны, хоць пра існаваньне яго нарэшце пачалі публічна гаварыць і аналізаваць у сьвятле ягоных артыкулаў дзеяньні афіцыйных уладаў.

## НОВАЕ ПАНСТВА

**У савецкім «бясклясавым» грамадзтве**

На 71-м годзе па рэвалюцыі, якая зьнішчыла старых паноў, чытаем у часапісе «Работніца і Сялянка» пра паноў новых:

«Вам не сустракаліся моцна разгалінаваныя генэалягічныя дрэвы ў навуцы? Ад карэньняў да шатаў — дзядулі, таты, мамы, іхныя дзеці. Усе маюць навуковыя ступені, усе бязьмежна таленавітыя, упэўнена ладзяць вузкасямейны фэст на катэдрах і ў лябараторыях — хто чужы і не падыходзь! Чужая навука ім не патрэбная, але й сваёй нікому не аддадуць. І жывуць гэткімі панамі й падпанкамі, падпіраюць адзін аднаго пустымі манаграфіямі. (...)

«Падвяду рысу. Ясным днём нават пад сонцам галоснасьці існуе ў сацыяльных эмпірэях гэткі заценены газон, дзе фармуюцца дынастыі. Не хлебаробскія, не настаўніцкія, а ўсё болей гандлёвыя, навуковыя, проста кіраўнікоў. Дзед — стаканачальнік, сын — у намэнклатуры, і ўнучак-аптыміст туды-ж цэліць.

«Сямейныя кланы ўсё мацнеюць. Новыя прынцы і прынцэсы крыві жэняцца толькі ў 'сваім коле'.

«Яны першыя 'перабудоўваюцца' і гучней за ўсіх апладзіруюць — ім добра, тылы забясьпечаныя».

(П. Якубовіч. Мэзальянс. «РіС», 1988, № 4, б. 23).

## КЛЯСАВАЯ СТРУКТУРА САВЕЦКАГА ГРАМАДЗТВА

**Народная сацыялёгія**

**КУЛАКІ.** Тыя, што трымаюць сваю зарплату ў кулаку і заціскаюць кулак, каб хапіла грошай на бягучыя патрэбы ды на чарку.

**СЕРАДНЯКІ.** Тыя, што жывуць пасярэдзіне, маючы ў дадатак да зарплаты прыбытак з агароду, каапер态ыву або іншай падсобнай дзейнасьці. Некаторыя зь сераднякоў маюць свае аўтамабілі, могуць дазволіць на лішнія выдаткі.

**ПРАЛЕТАРЫ.** Тыя, што нічога свайго ня маюць, у іх усё дзяржаўнае: кватэры, аўтамабілі, дачы, пуцёўкі ў санаторыі, зачыненыя магазыны-разьмеркавальнікі.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| А. і Л. Беленіс | ам.д. 100 |
| У. Ракуць | 100 |
| М. і В. Заморскі | 100 |
| Бел.-Амэр. Арг. Моладзі | 50 |
| М. і В. Махнач | 50 |
| М. Калядко | 30 |
| Г. П. | 30 |
| Я. Каханоўская | 30 |
| Ю. Андрусышын | 30 |
| А. Кажан | 25 |
| БАПЦ, Гайленд-Парк | 25 |
| О. Арэхва | 25 |
| С. Шабовіч | 25 |
| В. Косараў | 20 |
| П. Мельяновіч | 20 |
| В. М. | 20 |
| В. і В. Рамук | 20 |
| С. Станкевіч | 20 |
| М. Прускі | 20 |
| М. Кунцэвіч | 20 |
| Місія БССР пры ААН | 20 |
| К. Калоша | 15 |
| др. В. і В. Рамук (заміж кветак на магілу с.п. З. Станкевіч | 25 |

*Заміж кветак на магілу с.п. Ал. Стагановіча:*

| | |
|---|---|
| У. Набагез | 100 |
| Я. Запруднік | 50 |
| Н. Кудасава | 25 |
| В. Кажан | 20 |
| У. Машанскі | 20 |
| Л. Шурак | 20 |
| Усяго | 1055 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| В. Балтрушэвіч | 30 |
| П. Орса | 30 |
| Парафія БАПЦ у Гайленд-Парку | 25 |
| Л. Шурак | 25 |
| Кансысторыя БАПЦ | 25 |
| Б. А. Э. Даніловіч (заміж кветак на магілу с.п. А. Стагановіча) | 25 |
| Т. Супрун | 20 |
| Б. Даніловіч | 20 |
| Г. Дубяга | 20 |
| В. Макац | 20 |
| М. Абрамчык | 20 |
| А. Шастак | 20 |
| І. Шчорс | 20 |
| Л. Грант | 15 |
| Л. Стагановіч | 10 |
| Я. Яновіч | 10 |
| Я. Місюль | 10 |
| Усяго | 345 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. А. Стрэчаня:*

| | |
|---|---|
| К. Калоша | 100 |
| А. Стрэчань | 50 |
| С. П. | 50 |
| К. Каляда | 30 |
| Я. Ханенка | 30 |
| Т. Кананчук | 25 |
| В. Яцэвіч | 25 |
| Я. Раковіч | 25 |
| Я. Каваленка | 20 |
| К. Матальіцкі | 20 |
| Ю. Гасьцееў | 20 |
| А. Яраховіч | 20 |
| А. Сацэвіч | 20 |
| М. Страпко | 20 |
| З продажу паасобных нумароў | 35 |
| Усяго | 490 |

**ЗАХ. НЯМЕЧЧЫНА**

| | |
|---|---|
| В. Фрэйдкін | ням.м. 50 |
| А. Левін | 50 |
| А. Гаеўскі | 50 |
| У. Цьвірка | 50 |
| Ю. Сянькоўскі | 50 |
| Л. Урбан | 50 |
| П. Урбан | 50 |
| Усяго | 350 |

**АНГЕЛЬШЧЫНА**

*Праз нашага прадстаўніка сп. М. Баяроўскага:*

| | |
|---|---|
| У. Карніловіч | ам.д. 36 |
| Я. Міхальчык | 36 |
| М. Баяроўскі | 36 |
| П. Мятла | 18 |
| П. Грыгальчык | 11 |
| Усяго | 137 |

**АЎСТРАЛІЯ**

*Праз нашага прадстаўніка сп. А. Мароза:*

| | |
|---|---|
| А. і К. Чабатар | 20 |
| А. і С. Ніжнік | 20 |
| М. Раецкі малодшы | 20 |
| Э. Дамброўскі | 20 |
| З. Ёлаб | 5 |
| А. Бразоўскі | 30 |
| А. С. Мароз малодшы | 20 |
| Ф. і В. Дарэўскі | 30 |
| У. Ляшкевіч | 20 |
| А. і М. Мароз | 20 |
| З касы Аб'едн. Бел. у З.А. | 145 |
| Усяго | 350 |

Шчыры дзякуй усім ахвярадаўцам, прадстаўніком і падпісчыкам газэты! З Новым Годам!

**Выдавецтва «Беларус»**

## НА БЕЛАРУСКІ КРЫЖ У КАНАДЗЕ

| | |
|---|---|
| Аліна Айе (Скурат) | кан.д. 20 |
| Валодзя Астроўскі | 20 |

Арганізатары праекту «Беларускі Крыж» шчыра дзякуюць усім ахвярадаўцам, прозьвішчы якіх паданыя ў гэтым нумары «Беларуса», а таксама ў №№ 348, 351 і 354. Усім найлепшыя пажаданьні здароўя й шчасьлівага Новага Году!

## *НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД*

**Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва атрыманыя ахвяры:**

| | |
|---|---|
| А. Дубовік | ам.д. 100 |
| В. Кажан | 80 |
| А. Мацукевіч | 50 |
| У. Ракуць | 50 |
| С. Карніловіч | 50 |
| Я. Калюцік | 35 |
| А. Шастак | 30 |
| А. Аканoвіч | 30 |
| А. Сільвановіч | 25 |
| К. і М. Верабей | 25 |
| Г. Руднік | 50 |
| А. Слонімскі | 800 |
| М. Нікан | аўстр.д. 10 |
| Г. Міхалюк | 25 |
| Е. Паташук | 5 |
| У. Сьмірноў | 5 |
| Ю. Яшчанка | 5 |
| | у ам.д. 38 |
| Ю. Сенькоўскі | ням.м. 200 |
| П. Урбан | 100 |
| У. Цьвірка | 100 |
| А. Гаеўскі | 50 |
| В. Фрэйдкін | 50 |
| Л. Урбан | 50 |
| В. Станкевіч | 50 |
| А. Левіна | 30 |
| | у ам.д. 350 |
| Усяго ў ам.д. | 1713 |

***СТУДЗЕНЬ — ПЕРШЫ МЕСЯЦ ГОДУ І ДАЕ ЁН НАМ НАГОДУ ЗА ГАЗЭТУ ЗАПЛАЦІЦЬ, КАБ СПАКОЙНА ЎВЕСЬ ГОД ЖЫЦЬ.***

УВАГА!!! УВАГА!!!

*ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

Асобы, якія атрымваюць газэту «Беларус» ад сп. Б. Даніловіча, павінны перасылаць яму-ж і належнасьць за газэту. Чэк трэба выпісваць на ягонае прозьвішча ды перасылаць на адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, NJ 08901

**Адміністрацыя**

**ПАПРАЎКА.** Царква Сьв. Мікалая, іканастас якое зьмешчаны ў «Беларусе» № 353 (угары на 5-й б.), знаходзіцца ў *Манчэстэры* (Ангельшчына), а ня ў Лёндане, як памылкова напісана пад здымкам.